12 жніўня 2016 | № 30 (495)

# Новы час

novychas.by

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Калі б рускія ўзялі Тбілісі
стар. 9

**4 АД ВАНДЭІ ПЕРАБУДОВЫ ДА ЦЫТАДЭЛІ ТРАДЫЦЫЯНАЛІЗМУ**

Тое, што мы прыплылі не туды, — зразумела нават традыцыяналістам. Але нямногія ўсведамляюць, як далёка мы прасунуліся не туды



**5 СТАТКЕВІЧ: ТРЭБА ПРАЖЫВАЦЬ СВАЁ ЖЫЦЦЁ, А НЕ ЧУЖОЕ**

Упершыню за шмат гадоў экс-кандыдат у прэзідэнты, экс-палітвязень, сацыял-дэмакратычны лідар, проста выдатны чалавек і шчаслівы муж адсвяткуе свой дзень народзінаў не за кратамі, а сярод родных і сяброў



**8 АД ПІЯНЕРКІ ДА ПЕРШАЙ ЛЭДЗІ**

У выпадку перамогі Дональда Трампа пасаду першай лэдзі ў ЗША можа заняць яго 45-гадовая жонка Меланія, вядомая мадэль, якая нарадзілася ў Славеніі

**11 ПЕРШЫ ГРОДЗЕНСКІ АЛІМПІЕЦ**

Лічыцца, што ўпершыню беларускія спартоўцы прынялі ўдзел у Алімпіядзе 1952 года ў складзе зборнай СССР. Але гэта былі не першыя алімпійскія спартоўцы — ураджэнцы Беларусі

# Пагамонім?

**«Абяцанка — цацанка, а дурню радасць», — прыкладна такой логікай карыстаюцца ўлады адносна перамоваў з еўрапейцамі наконт свабодных і справядлівых выбараў**



Сяргей ПУЛЬША

На гэтым тыдні Мінск наведалі еўрапейскія палітыкі. Найперш у Беларусі пабыла назіральная місія Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы пад кіраўніцтвам аўстрыйскага дэпутата Гізела Вурста. У складзе дэлегацыі быў таксама спецдакладчык ПАСЕ па Беларусі Андрэа Рыгоні. У суботу чакаецца візіт і віцэ-старшыні Парламенцкай асамблеі АБСЕ, спецыяльнага каардынатара на парламенцкіх выбарах у Беларусі Кента Харстэда. Цікава, што яны хочуць тут пачуць і пабачыць?

Зразумела, афіцыйны Мінск хоча патрапіць у ПАСЕ. Гэта было б чарговым «дыпламатычным прарывам». Можа быць, у кагосьці ва ўладзе і ёсць настальгія па 1990-х гадах, калі беларускі парламент быў «спецыяльна запрошаным» у ПАСЕ. Нагадаем, што Беларусь атрымала згаданы статус 16 верасня 1992 года, а 13 студзеня 1997-га была яго пазбаўленая, паколькі Бюро асамблеі не прызнала адпаведнымі міжнародным стандартам умовы правядзення і вынікі канстытуцыйнага рэферэндуму 1996-га.

З тых часоў апазіцыя кожныя выбары хвалюецца, што новаабраны парламент атрымае статус у ПАСЕ, і змагаецца за непрызнанне айчынных выбараў адпаведнымі міжнародным стандартам. І, тым чынам, закрывае новаму «заканадаўчаму органу» шлях у гэтую структуру. Гэтыя выбары — не выключэнне.

Але і беларуская ўлады, падаецца, таксама не вельмі жадаюць атрымаць у ПАСЕ і Савеце Еўропы поўнае сяброўства. Таму што для гэтага трэба выканаць дзве ўмовы: правесці свабодныя і справядлівыя выбары, якія б адпавядалі стандартам АБСЕ, і скасаваць смяротнае пакаранне.

Што тычыцца апошняга, пазіцыя дзяржавы ў гэтым непахісная. Пры ўсім дэманстратыўным жаданні некаторых дэпутатаў (найперш, старшыні пастаяннай камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Мікалая Самасейкі) увесці хаця б мараторый на смяротную кару, нават гэтыя людзі спасылаюцца на вынікі таго ж рэферэндуму 1996-га, з-за якога Беларусь і выгналі з ПАСЕ. Тады большасць нібыта выказалася за захаванне смяротнай кары. Пры гэтым, канешне, замоўчваецца, што з часу таго плебісцыту мінула 20 гадоў, за якія вырасла новае пакаленне беларусаў.

Што ж тычыцца свабодных і справядлівых выбараў, то Еўропа даўно штурхае Беларусь да выканання правілаў АБСЕ. Але, як кажуць, «вожык — птушка ганарлівая, пакуль не пнеш — не паляціць». Спадарыня Ярмошына колькі ўжо разоў абяцала «ўлічыць рэкамендацыі АБСЕ пры падрыхтоўцы выбараў», але не гэтых, а наступных, бо зараз «коней на пераправе не мяняюць» і вельмі шкодна мяняць правілы гульні ў працэсе гэтай гульні.

Для таго, каб пабачыць, што ў краіне адносна выбараў нічога не змянілася, сюды нават ехаць не трэба. Дастаткова ўзяць справаздачы праваабаронцаў і паглядзець, як змяніўся склад, напрыклад, участковых камісій, якія лічаць галасы. А апазіцыянераў у гэтых камісіях толькі 0,08%. Што нават горш за парламенцкія выбары 2012 года, калі іх там быў 0,1%. А тая ж Лідзія Ярмошына неўключэнне прадстаўнікоў апазіцыі ў камісіі патлумачыла тым што ў іх «жыццё не склалася» і ў наяўнасці «адмоўнае абаянне».




**За 4 гады 110 дэпутатаў унеслі на разгляд толькі 3 законапраекты**

Дый увогуле, Парламенцкая асамблея Савета Еўропы — гэта збор прадстаўнікоў заканадаўчай улады еўрапейскіх краін. За чатыры гады сваёй кадэнцыі 110 дэпутатаў унеслі на разгляд толькі тры законапраекты. Дык ці можна ўвогуле называць ППНС «заканадаўчым органам»?

Да таго ж выбары ў еўрапейскім разуменні — гэта не вынік, а працэс. У працэсе таксама нічога не змянілася. Па-ранейшаму не забяспечаныя свабода слова, свабода мірных сходаў, правa грамадзян на аб'яднанне. За мірныя сходы караюць у адміністрацыйным парадку — толькі за тое, што гэта «несанкцыянаваны сход», ужо нават і не карыстаюцца такімі фармулёўкамі, як «перашкаджаў руху грамадзян і грамадскаму транспарту». Правы грамадзян на аб'яднанне яскрава ілюструе 6-разовая нерэгістрацыя партыі БХД і 15-разовая нерэгістрацыя грамадскага аб'яднання хрысціянскіх дэмакратаў. А ў «свабодзе слова», па звестках Беларускай асацыяцыі журналістаў, прыкладна трацина з незалежных СМІ ўжо 10 гадоў выкінутыя з дзяржаўных сістэмаў распаўсюду па падпісцы і ў розніцу.

Такім чынам беларускія выбары ператвараюцца ў рэч бессэнсоўную і бязлітасную, з загадзя вызначаным вынікам.

Магчыма, прадстаўнікі ПАСЕ проста пераняслі тактыку беларускай апазіцыі, і едуць сюды проста «пагаманіць з людзьмі», як тое робяць падчас выбараў дэмакратычныя кандыдаты. Бо для апошніх выбары — ці не адзіная магчымасць масава сустрэцца з народам. Але ж ці варта дзеля гамонкі марнаваць грошы сваіх падаткаплацельшчыкаў на такія камандзіроўкі? Урэшце, ёсць Skype ці Viber.

# Міхаілу Жамчужнаму вынесена спагнанне

**Спагнанне было вынесена Міхаілу Жамчужнаму яшчэ 21 ліпеня, у выніку якога ён пазбаўлены кароткатэрміновага спаткання. Сам палітвязень расцэньвае гэта як правакацыю і спосаб ціску на яго.**

Па словах Жамчужнага, у той дзень ён запісаўся на прыём да начальніка спецчасткі, каб пракантраляваць адпраўку яго скаргаў. У суправаджэнні днявальнага, як гэтага патрабуюць правілы ўнутранага распарадку, ён прыйшоў у спецчастку і стаў у чаргу на прыём. Супрацоўнік спецчасткі вывеў яго з чаргі і адвёў у сектар №4. За самавольнае перамяшчэнне па тэрыторыі калоніі на Міхаіла Жамчужнага быў складзены акт, што і стала падставай для вынясення спагнання. Варта адзначыць, што вывеў яго з чаргі і адвёў у недазволены сектар якраз той супрацоўнік, які раней увёў яго ў зман адносна таго, што наглядныя скаргі могуць падавацца толькі праз год пасля вынясення прысуду. Гэтая інфармацыя была апублікавана, у выніку чаго праводзілася праверка дзеянняў дадзенага супрацоўніка.

Міхаіл Жамчужны таксама паведаміў, што атэстацыйная камісія не пацвердзіла ягоны ранейшы статус «асобы, якая стала на шлях выпраўлення». Захоўваецца жорсткі кантроль за ягоным перамяшчэннем па тэрыторыі пенітэнцыярнай установы, як для асобы, «схільнай да экстрэмізму і іншай дэструктыўнай дзейнасці» па-ранейшаму прадугледжаны 4 кожнадзённыя праверкі. Але разам з тым у Жамчужнага захоўваюцца палепшаныя ўмовы ўтрымання.

У ліпені 2015 года Міхаіл Жамчужны быў асуджаны Віцебскім абласным судом на 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. 23 кастрычніка судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда разгледзела касацыйную скаргу і прызначыла Жамчужнаму больш строгае пакаранне — шэсць з палове гадоў пазбаўлення волі. Яго прызналі вінаватым у наўмысным выдаванні звестак, што складаюць службовую таямніцу і ў незаконным набыцці сродкаў для сакрэтнага атрымання інфармацыі, што складае службовую таямніцу.

Беларускімі праваабаронцамі Міхаіл Жамчужны прызнаны палітычным зняволеным.

**spring96.org**

# «Мы ў шоку. Сын — напалову труп»

**9 жніўня бацькі Уладзіміра Кондруся, новага фігуранта справы аб масавых беспарадках, упершыню за два месяцы арышту наведалі сына ў мінскім СІЗА-1.**

Стан здароўя 39-гадовага Уладзіміра Кондруся, які цяпер знаходзіцца ў санчасці «Валадаркі», яго бацькі ацэньваюць як крытычны. Ён вытрымаў толькі пяць хвілінаў першага дазволенага спаткання з бацькамі. Пра гэта Праваабарончаму цэнтру «Вясна» паведаміў ягоны бацька Уладзімір Расціслававіч.

«Мы ў шоку. Сын — напалову труп. У пакой для перамоваў яго вынеслі на насілках. Яго хапіла на пяць хвілінаў гутаркі. Ён знясілены. Казаў ён вельмі невыразна. Глядзіш на яго з боку — здаецца, што ён як у тумане, дрэнна разумее. Вочы паўпустыя», — распавёў ён са страхам у голасе.

У СІЗА Уладзімір Кондрусь трымаў доўгатэрміновую галадоўку на знак пратэсту супраць свайго зняволення, што і стала прычынай рэзкага пагаршэння яго стану здароўя. Паводле бацькі, нягледзячы на сваю цвёрдую пазіцыю, ён папрасіў пра дапамогу.

«Сын папрасіў нас дамагчыся, каб яму зрабілі зонд. Справа ў тым, што ў яго язва, і з гэтай прычыны яго не ўзялі ў войска. Зараз ён харкае крывёю. Відавочна, язва абвастрылася. А ў санчасці ніякай дапамогі яму не аказваюць, так і кажуць: «Мы такой дапамогі не аказваем». Ён просіць абязбольвальнае — не даюць. Страшна гаварыць пра ўсё гэта... Маці сёння ў СІЗА слёзна прасіла перавесці яго ў нармальны шпіталь. Нашаму сыну неабходная тэрміновая дапамога», — працягнуў Уладзімір Расціслававіч.

Пасля сустрэчы з бацькамі Кондруся перавялі ў рэспубліканскі турэмны шпіталь, што на тэрыторыі СІЗА-1 на Валадарскага. Яго ўдалося ўгаварыць на выхад з галадоўкі.

Нагадаем, што жыхар пасёлка Рудзенск Уладзімір Кондрусь 1977 года нараджэння быў узяты пад варту 14 чэрвеня ў межах папярэдняга расследавання за яго меркаваны ўдзел у масавых беспарадках каля Дома Урада падчас выбараў прэзідэнта ў 2010 годзе. Ён абвінавачваецца па артыкуле 293 Крымінальнага кодэкса «Масавыя беспарадкі», па якім у 2011 годзе было асуджана 49 чалавек, многія з пазбаўленнем волі на розныя тэрміны.

**spring96.org**

# Чаму не зарэгістравалі Лагвінца

Сяргей ПУЛЬША

**Намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Алесь Лагвінец сцвярджае, што адна са скаргаў, якія сталі падставай для нерэгістрацыі яго кандыдатам у дэпутаты, падробленая.**

Выбаршчыца Вікторыя Гродзь, нібыта, паскардзілася акруговай камісіі на пікеты палітыка. Быццам, кіруючы машынай, яна заглядзелася пікет Лагвінца і стварыла на дарозе небяспечную сітуацыю. Але паведаміла пра гэта чамусьці не ДАІ, а выбарчай камісіі з патрабаваннем прыняць да Лагвінца нейкія захады. Захады былі прынятыя — Лагвінца кандыдатам не зарэгістравалі.

Лагвінец пазваніў гэтай грамадзянцы, пераслаў ёй копію заявы і пачуў катэгарычны адказ, што ніякіх такіх заяў яна не пісала, што гэта не яе почырк. Гэта пацвярджаецца смс-перапіскай і аўдыёзапісам размовы. Стасункі з Гродзь у Лагвінца адбыліся 8 жніўня, а на наступны дзень палітык проста ў памяшканні акруговай камісіі напісаў заяву ў міліцыю па факце падробкі скаргі.

Аднак, калі той жанчыне пачалі тэлефанаваць журналісты, яна аўтарства сваёй заявы пацвердзіла. Быццам бы, яна палічыла, што гэта ёй тэлефануюць з ДАІ, а не магчымы кандыдат у дэпутаты. Нягледзячы на тое, што ў размове з жанчынай Лагвінец неаднаразова сказаў ёй пра сваё «кандыдацтва».

Што ж здарылася? Падаецца, адказ на паверхні. На сайце мінскай школы №199 паказана, што Вікторыя Гродзь працуе сакратаром дырэктара гэтай навучальнай установы. Школа размешчана ў мікраёне Сухарава, дзе спрабаваў балатавацца палітык. А супернікам Лагвінца павінна была быць дырэктар гімназіі №31, якая таксама месціцца ў Сухарава, Ганна Старавойтава.

Цікавы склад акруговай камісіі, якая здымала Лагвінца з выбараў: загадчыца яслі-садку №93 Эма Антановіч, дырэктар комплексу «Дзіцячы сад-школа №93» Марыя Валадкевіч, завуч па вучэбнай рабоце СШ №59 Уладзімір Дземянчук, прадстаўнік Упраўлення адукацыі, спорту і турызму адміністрацыі Фрунзенскага раёна Мінска Вольга Зуева, настаўнік гісторыі СШ №2 Вера Майсейшына, завуч СШ №96 Аксана Шпілеўская, дырэктар сацыяльна-педагагічнага цэнтра з прытулкам Фрунзенскага раёна Мінска Кацярына Юргелевіч і іншыя людзі, таксама блізкія да сферы адукацыі.

Ведаючы месца працы спадарыні Гродзь, нескладана здагадацца, чаму яна «блытаецца ў паказаннях». А калі сапраўды пісала скаргу на Лагвінца, то зразумела, чаму не ў ДАІ.

Цікава, што яшчэ адна скарга на Лагвінца напісана Наталляй Дзмітрыеўнай Лагуноўскай. На сайце той жа СШ №199 жанчына з такімі жа прозвішчам, імем і імем па бацьку значыцца як завуч малодшых класаў.

У прынцыпе, пісала ці не пісала Гродзь скаргу, высвятляецца проста: графалагічнай экспертызай. Але ці правядзе яе міліцыя? Вялікае пытанне.

# Судовы канвеер

## Пра суд і штраф пенсіянерка даведалася толькі ад судовых выканаўцаў

Маёмасць жыхаркі Мінскага раёна Вольгі Юнкевіч апісанню не падлягае. Да такой высновы прыйшлі судовыя выканаўцы аддзелу прымусовага выканання Мінскага раёна, якія раніцай 8 жніўня наведалі жыллё 72-гадовай актывісткі Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры Вольгі Юнкевіч.

12 мая ў Мінску разам з іншымі грамадскімі актывістамі жанчына правяла адзіночны несанкцыянаваны пікет на плошчы Свабоды.

Спачатку пенсіянеры накіраваліся ў прыёмную Адміністрацыі прэзідэнта, каб, згодна з пададзенымі заявамі, сустрэцца з намеснікам кіраўніка гэтай дзяржаўнай структуры Валерам Мацкевічам. Аднак, як патлумачылі заяўнікам, ім было адмоўлена ў прыёме, паколькі ўзнятыя грамадзянамі пытанні не ўваходзяць у кампетэнцыю Адміністрацыі прэзідэнта. Пасля такой адмовы пенсіянеры і выйшлі на плошчу Свабоды.

Вольга Юнкевіч трымала плакат: «Адпіскі чыноўнікаў разбурылі маю сям'ю». Цягам дзевяці гадоў яна дамагаецца справядлівага вырашэння сваёй грамадзянскай справы, у выніку якой яе ўласны дом у Мінскім раёне падзелены на тры кватэры, а грошы, што жанчына павінна была атрымаць за падзел дома, зніклі з дэпазітнага рахунку суда Мінскага раёна. Аднак па гэтаму факту праваахоўнікі адмаўляюцца распачынаць крымінальную справу.

1 чэрвеня суддзя суду Цэнтральнага раёна Мінска Вікторыя Шабуня аштрафавала Вольгу Юнкевіч на 30 базавых велічынь (630 рублёў). Аднак асуджэнне адбылося без удзелу пенсіянеркі. Ні позву ў суд, ні пастанову суддзі жанчына не атрымлівала. На яе адпаведную рэакцыю судовыя выканаўцы заявілі: «Не падабаецца — з'язджайце з краіны!».

«І гэта мяне больш за ўсё абурыла, бо Беларусь — мая радзіма, дзе мае карані і парасткі, дзе я пражыла ўсё жыццё і прапрацавала настаўніцай біялогіі каля 40 гадоў», — падкрэсліла Вольга Юнкевіч.

Трэба мець на ўвазе, што 11 ліпеня суддзі суда Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці і горада Бабруйска Таццяна Тарабуева і Наталля Чарапуха аштрафавалі яшчэ двух удзельнікаў несанкцыянаванага пікетавання на сталічнай плошчы Свабоды. Любоў Санкевіч і Алесь Каваленка былі пакараныя штрафамі ў 20 базавых велічыняў (420 рублёў) кожны.

## Накладзены арышт на дом бабруйчанкі Валянціны Каваленка

Накладзены арышт на дом жыхаркі Бабруйска Валянціны Каваленка. Пра гэта гаворыцца ў пастанове ад 4 жніўня, што падпісала судовы выканаўца аддзела прымусовага выканання Бабруйскага раёна і горада Бабруйск Вольга Азоўцава.

Сваю пастанову яна матывавала тым, што Валянціна Каваленка не аплаціла адміністрацыйны штраф у суме 420 рублёў.

У каментары НЧ спадарыня Валянціна распавяла, што 8 жніўня яе выклікалі ў аддзел прымусовага выканання і ўручылі пастанову аб накладанні спагнання. Разам з тым, грамадская актывістка адмовілася ўпускаць у сваю хату судовых выканаўцаў для агляду маёмасці. Валянціна Каваленка будзе абскарджваць дзеянні Вольгі Азоўцавай ва ўпраўленні прымусовага выканання галоўнага ўпраўлення юстыцыі Магілёўскага аблвыканкаму.

Нагадаем, што 31 сакавіка на сталічнай плошчы Свабоды 15 актывістаў Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры — пенсіянеры і інваліды з розных рэгіёнаў краіны — правялі несанкцыянаваны пікет, каб дамагчыся дыялогу з чыноўнікамі, якія даюць адпіскі на звароты грамадзян. Падчас пікетавання людзі сталага веку трымалі плакаты: «Гульні ў дэмакратыю скончыліся з намі 11 кастрычніка», «Патрабуем ад чыноўніцтва выканання Канстытуцыі краіны!», «Чыноўнікі і дэпутаты схаваліся ад народа за плотам адпісак».

А 22 красавіка суддзя суда Цэнтральнага раёна горада Мінска Валер Есьман аштрафаваў Валянціну Каваленка на 20 базавых велічынь (420 рублёў) за ўдзел у несанкцыянаваным пікетаванні.

Трэба мець на ўвазе, што накладзены арышт на кватэру яшчэ адной актывісткі Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры — юрысткі Тамары Сяргей, якую за ўдзел і арганізацыю пікетавання на плошчы Свабоды 31 сакавіка суддзя суда Цэнтральнага раёна Мінска Вікторыя Шабуня аштрафавала на 40 базавых велічынь (840 рублёў).

На думку праваабаронцы, прымяненне такой санкцыі, як арышт маёмасці, сведчыць, што ўлады імкнуцца як мага мацней запалохаць тых, хто не скараецца перад беззаконнем з боку чыноўніцтва. «Прычым праз нас імкнуцца запужаць і астатніх», — падкрэсліла юрыстка.

**Марат Гаравы**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# З шырока заплюшчанымі вачыма

Сяргей САЛАЎЁЎ

**За тыя два тыдні, пакуль мы былі ў адпачынку, адбылося шмат падзей. На жаль, не вельмі радасных, але заўважных. Найперш, нас прымусілі зноў узгадаць пра Чарнобыль.**



Фота www.kp.by

На яшчэ недабудаванай АЭС пакоцалі рэактарны блок. Як нам потым патлумачыў Аляксандр Рыгоравіч, выслізнула «бочка» — корпус рэактара, і звалілася з вышыні чатырох метраў. Улічваючы, што гэтая «бочка» важыць 330 тон, а законы фізікі яшчэ ніхто не адмяняў, гэта выклікала шалёную занепакоенасць у беларусаў.

Намеснік дырэктара карпарацыі «Расатам» Аляксандр Локшын праз дваццаць дзён (!) пасля інцыдэнту супакойваў: «Ніякай падзеі, якая б прывяла да нейкай шкоды, не адбылося. Максімум, пра што можна казаць, — пра пацёртую на корпусе завадскую фарбу з-за трэння металічных стропаў. (…) Мы абсалютна перакананыя, што тэхнічных перашкод для выкарыстання корпуса не існуе. Але дапускаем, што заказчык можа прыняць рашэнне не выкарыстоўваць гэты корпус, каб пагасіць хвалю чутак і ажыятаж сярод часткі насельніцтва».

Але гэта не ўразіла жыхароў краіны, якая найбольш пацярпела ад аварыі на ЧАЭС. Тым больш, што Локшын дадаў: калі так адбудзецца, на першы блок паставяць корпус, які планавалі паставіць на другі блок, — яго выраб цяпер заканчваецца. А куды падзенуць першы корпус? Паставяць яго на другі блок той жа АЭС?

«Гэта нагадвае абмен бялізны ў канцлагеры: першы барак мяняецца з трэцім, а чацвёрты з другім», — з'едліва каментавалі падзею сацыяльныя сеткі. Сапраўды, калі лясне рэактар БелАЭС, нам будзе ўсё роўна, які па нумары лясну: першы ці другі.

Яшчэ не вядома з чаго беларускае тэлебачанне ажыццявіла «наезд» на НІСЭПД — незалежны сацыялагічны інстытут, які быў выціснуты з Беларусі і зараз мае прапіску ў Літве. Маўляў, ніякіх апытанняў НІСЭПД у краіне не праводзіць, а толькі выціскае грошы з замежных спонсараў.

Гэта вельмі дзіўна, бо НІСЭПД «клявалі» не толькі ўлада, але і апазіцыя. Нібыта, у дыктатарскай краіне сацыялагічныя апытанні праводзіць увогуле немагчыма, таму ў лічбы справаздачаў трэба ўносіць папраўкі на «фактар страху». Больш за тое, НІСЭПД заўсёды ахалоджваў прыхільнікаў розных байкотаў выбараў, выдаючы рэальныя ацэнкі тых, хто збіраецца галасаваць. І адначасна пацвярджаў перамогі Аляксандра Рыгоравіча на прэзідэнцкіх выбарах. Канешне, не з 90%, але большасць была.

У выніку інстытут абвясціў пра спыненне сацапытанняў у краіне.

Чаму гэта адбылося зараз? Справа не толькі і не столькі ў парламенцкай кампаніі, якая праходзіць у краіне. Хутчэй, гэта звязана з агульным фінансава-эканамічным і сацыяльным становішчам у Беларусі. Апошнія вынікі НІСЭПД яскрава дэманстравалі правал у вачах насельніцтва менавіта «беларускага эканамічнага цуду». А тое, што чалавек адчувае на сваёй скуры, вельмі цяжка абвергнуць прапагандай.

З іншага боку, улады нашкодзілі самі сабе. Без бесстаронніх і аб'ектыўных апытанняў грамадскай думкі капец падкрадзецца незаважна. І калі здарыцца «сацыяльны выбух», пра які ўжо ўсе вушы прагудзелі апазіцыйныя дзеячы, то ўлады даведаюцца пра яго ўжо тады, калі сотні тысяч працоўных будуць стаяць пад вокнамі рознага кшталту адміністрацый.

НІСЭПД перашкаджаў прэм'еру Кабякову бачыць нерэальнасць. У той час, як грошы ў беларусаў імкліва знікаюць, Кабякоў бачыць «узнаўляльныя тэндэнцыі» ва ўсіх галінах эканомікі. На нарадзе Саўміну ён сказаў, што «ў наяўнасці дынаміка аднаўлення эканамічнага росту, прычым на здаровай неэмісійнай аснове». У параўнанні са студзенем 2016 года індэкс ВУП павялічыўся на 1,9 працэнтнага пункта і склаў па выніках шасці месяцаў 97,5%. «Гэта менш, чым мы планавалі ў снежні — 100,1%, тым не менш дынаміка станоўчая па выніках паўгоддзя», — канстатаваў прэм'ер.

Праўда, Кабякоў не паведаміў, што за студзень-ліпень гэтага года, паводле Нацыянальнага статыстычнага камітэта, інфляцыя ў Беларусі склала 7,8%. То бок, яна чатыры разы з'ела той самы «індэкс ВУП», пра які казаў чыноўнік.

І напярэдадні парламенцкіх выбараў і новага навучальнага года Аляксандр Рыгоравіч паклапаціўся пра настаўнікаў. Прычым, больш з выбараў, чаго ён і не хаваў. «Пытанне статусу педагагічнага работніка, скажу дакладней — настаўніка, перш за ўсё сярэдняй школы, ужо набыло не проста грамадскае гучанне, а палітычнае. Па многіх прычынах. На настаўніку заўсёды ляжала цяжкая місія, і ніколі багатымі настаўнікі не былі. Не зусім багатыя яны і сёння. Але нагрузку на іх, у тым ліку палітычную, мы накладваем велізарную, — сказаў Лукашэнка. — Вазьміце парламенцкія выбары, нядаўнія прэзідэнцкія выбары: хто складаў аснову палітычнага ядра, якое праводзіла галоўную палітычную кампанію? Настаўнікі, лекары, дзяржаўныя служачыя. І сёння гэтыя катэгорыі грамадзян, якія забяспечваюць стабільнасць у нашай дзяржаве, неабгрунтавана, напэўна, пакрыўджаныя. Але, перш за ўсё, настаўнік».

Аднак проста падвысіць заробак настаўніку — на гэта мы не пойдзем. «Я не хачу так ставіць пытанне. Я хачу сказаць па-іншаму: сітуацыя з матэрыяльным забеспячэннем настаўніцтва далей нясцерпная, таму давайце настаўніка нагрузім настолькі, наколькі ён павінен быць загружаны, але будзем плаціць належную зарплату», — сказаў ён.

Што з гэтага атрымаецца? Анічога, апроч як пацешыць самалюбства настаўнікаў — «сам» выказаў ім спачуванне. І ўсё. Бо ўсе мы памятаем выказванне таго ж Лукашэнкі, што мы можам забяспечыць «заробкі як еўрапейскія, але тады і плаціць за ўсё будзем, як еўрапейцы, напоўніцу». Грамадства да гэтага не гатовае, адзначаў ён, і беларусы засталіся без еўрапейскіх заробкаў. Але ўжо зараз — з еўрапейскімі коштамі.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Анатоль Лябедзька



**Напрыканцы жніўня ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска будзе разгледжана справа аб абмежаванні права кіравання механічным транспартным сродкам лідарам АГП.**

Гэты працэс узнік з-за таго, што Анатоль Лябедзька адмаўляецца аплачваць вынесеныя яму штрафы за арганізацыю і ўдзел у акцыях салідарнасці з індывідуальнымі прадпрымальнікамі і супраць міліцэйскага гвалту ў Мінску.

Варта адзначыць, што з-за гэтага ўжо быў арыштаваны гараж па вуліцы Ціміразева, які належыць жонцы палітыка Святлане Лябедзька. Такім чынам, Лябедзьку могуць пакараць двойчы за адно і тое ж правапарушэнне, што супярэчыць беларускаму заканадаўству, але з'яўляецца звычайнай практыкай у сінявокай.

У каментары прэс-службе АГП Лябедзька падкрэсліў, што гэта рэпрэсіўная палітыка на адрас партыі і правацэнтрысцкай кааліцыі. «Ідзе маральна-псіхалагічны ціск судовых выканаўцаў. Гэта я адчуваю і на сабе. Мяне хочуць выбіць з працоўнага графіка і запалохаць не столькі мяне, колькі астатніх людзей, якія падчас выбарчай кампаніі былі актыўнымі і не гулялі па правілах Ярмошынай і Лукашэнкі», — сказаў палітык.

## Юрый Чыж



**Арыштаваны беларускі алігарх, паводле непацверджаных звестак, мае намер кампенсаваць дзяржаве нанесеную ім шкоду.**

Пра гэта са спасылкай на «атачэнне Чыжа» напісала «Народная Воля».

«Глабальных навін па справе Юрыя Чыжа няма. Яго адвакаты каментарыяў для прэсы не даюць. І сам Чыж, і тыя, хто апынуўся за кратамі разам з ім, у гэтым сэнсе занялі прынцыповую пазіцыю: маўчанне — золата. Тым не менш сёе-тое атрымалася даведацца. «Ідзе працэс па кампенсацыі шкоды», — так кажуць людзі з акружэння затрыманых», — піша выданне.

Таксама «Народная Воля» паведаміла пра тое, што некаторыя падначаленыя Чыжа супрацоўнічаюць са следствам.

Асноўны ўладальнік групы кампаній «Трайпл» Юрый Чыж быў затрыманы праваахоўнымі органамі 11 сакавіка. Разам з бізнесоўцам у СІЗА КДБ трапілі яшчэ пяць чалавек, якія падазраюцца ва ўхіленні ад выплаты падаткаў і збораў у асабліва буйным памеры. Старшыня КДБ Валер Вакульчык ацаніў суму стратаў па крымінальнай справе ў дачыненні да Чыжа ў 12 мільёнаў долараў.

## Іван Айплатаў



**Знакаміты беларускі дызайнер саступіў дарогу маладым — як вядома, ён прайграў конкурс на алімпійскую форму для беларускіх спартоўцаў у Рыа Юліі Латушкінай.**

Але гэта не значыць, што ягоныя распрацоўкі былі выкінутыя ў сметніцу. Як паведаміла «Камсамольская праўда ў Беларусі», Айплатаў стварыў форму для кіраўніка Чачні Рамзана Кадырава, членаў яго сям'і, а таксама клуба кікбоксінга «Ахмат», які Кадыраў патрануе.

У новай форме беларускага дызайнера байцы клуба «Ахмат» выйдуць на турнір па кікбоксінгу ў Чачні ўжо 23 жніўня.

«Мы не знаёмыя з Рамзанам Кадыравым, — распавёў «КП» Айплатаў. — Але я шмат гадоў шыю форму для нашага кікбаксёра азербайджанскага паходжання Забіта Самедава. І вось ён якраз сябруе з Кадыравым, той падарыў яму шыкоўны «мерседэс», і калі прыязджае ў Чачню, жыве літаральна рука аб руку з кіраўніком Чачні. Забіт параіў зрабіць у мяне заказ формы для байцоў клуба кікбоксінга «Ахмат», за які ён выступае».

Як будзе выглядаць форма, Айплатаў паказваць не жадае — да моманту, пакуль яе не ўхваліць Рамзан Кадыраў. Кажа, што гэта з яго боку было б нетактоўна. Але на ўсіх этапах падрыхтоўкі формы — ад дызайну і знакаў на ёй да колеру — ён робіць узгадненні з заказчыкам.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Ад Вандэі перабудовы да цытадэлі традыцыяналізму

**Не варта рабіць «асноўную памылку інтэлігенцыі» — верыць у здольнасць народа, вызваленага ад прыгнёту начальства, самастойна наладзіць жыццё.**

У паэме Барыса Пастарнака «Высокая хвароба» ёсць выдатныя радкі пра Леніна:

*Столетий завистью завистлив,*
*Ревнив их ревностью одной,*
*Он управлял теченьем мыслей*
*И только потому — страной.*

У героя маіх «азбук паліталогіі», безумоўна, не той маштаб. На зайздрасць і рэўнасць стагоддзяў разлічваць яму не даводзіцца, але прынцып кіравання краінай той жа. Ён адзіны палітык (АП) і сваю місію бачыць у кіраванні «*течением мыслей*» беларусаў. Яго права і магчымасць кіраваць краінай ёсць толькі вытворныя ад права і магчымасці кіраваць «плынню думак» («*течением мыслей*»).

Нічога нечаканага з пункту гледжання паліталогіі ў гэтым няма. Звернемся, для прыкладу, да паняцця «легітымнасць» (ад лацінскага «legitimus» — законны, правамерны), якое азначае згоду народа добраахвотна прызнаваць за палітыкам права на прыняцце рашэнняў. Гэта значыць, палітык мае ўладу толькі ў тым выпадку, калі іншыя згодныя, што ён мае ўладу.

Нескладана здагадацца, што адбудзецца, калі тыя, па-першае, перадумаюць, па-другое, перадумаюць практычна адначасова. Як тут ні прыгадаць люты 1917 года, калі, паводле трапнага вызначэння гісторыка Васіля Розанава, «Расія зліняла за тры дні».

Імперыі, якая раскінулася ад Балтыйскага да Ахоцкага мораў, для распаду хапіла гэтых трох дзён. А што вы хочаце, калі ў ліку іншых апынуліся нават родныя браты гасудара імператара.

Сёння мы разумеем, што захаванне манархіі давала шанец на правядзенне больш эфектыўнай і менш крывавай мадэрнізацыі краіны, у параўнанні з мадэрнізацыяй бальшавікоў. Гэтак жа сама (прыгадаем Кітай) эканамічныя рэформы пад кіраўніцтвам рэфарматарскага крыла КПСС хутчэй маглі б прывесці нас да рыначнай эканомікі. Але як у першым, так і ў другім выпадку кіраўнікі дзяржаў гублялі здольнасць кіраваць «плынню думак», і падзеі пачыналі разгортвацца паводле некіраванага сцэнару.

### Што ў сухой рэшце?

Аднак як вызначыць межы, у якіх кіраванне «плынню думак» магчымае, якая пры гэтым роля аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў? Для адказу на пастаўленыя пытанні зноў звернемся да Леніна.

За сваё адносна кароткае жыццё ва ўладзе ён тройчы кардынальна мяняў курс развіцця краіны. Але курс, калі пагадзіцца з Пастарнакам, другасны ў адносінах да «плыні думак», такім чынам, у адпаведнасці са знакамітай формулай манцёра Мечнікава, «раніцай — думкі, увечары — курс».

Ленін быў марксістам. Ён верыў у рэвалюцыйную творчасць мас, адначасова прызнаючы патрэбу ў правадырах, што «здольныя арганізаваць рух і кіраваць ім». Тры ленінскія курсы — гэта саветызацыя («Уся ўлада саветам!»), ваенны камунізм і НЭП.

Тэарэтычнай базай першага курса служыла «асноўная памылка інтэлігенцыі», г.зн. вера ў здольнасць народа, вызваленага ад прыгнёту начальства і эксплуататараў, самастойна наладзіць жыццё. Ленін разглядаў саветы ў якасці клеткі новага грамадства, яго сутнасці.

Але саветы ў сваёй першароднай форме — дадзяржаўны орган кіравання. Яны не прыстасаваныя для вырашэння праблем, якія выходзяць за межы вузкіх лакальных супольнасцяў. Таму «трыумфальнае шэсце савецкай улады» па факце аказалася распадам краіны.

Пры адсутнасці цэнтральнай улады перастала працаваць чыгунка, спыніўся падвоз хлеба ў гарады і сыравіны на прадпрыемствы. Масавая эйфарыя ад здабытай свабоды трансфармавалася ў сваю супрацьлегласць — у такое ж масавае патрабаванне навядзення парадку. Ленін не стаў веславаць супраць плыні і аператыўна адкарэктаваў свае ўяўленні пра саветы: «Рашуча ніякай прынцыповай супярэчнасці паміж савецкім (г.зн. сацыялістычным) дэмакратызмам і прымяненнем дыктатарскай улады некаторымі асобамі няма».

Ківач гісторыі хіснуўся ў адваротны бок. Ён зруйнаваў лакальныя мяжы, выбудаваныя ў працэсе саветызацыі, а заадно і рэшткі таварна-грашовых адносін. Але вельмі хутка высветлілася, што аўтарытарны парадак, даведзены да крайніх формаў, ператвараецца ў сваю супрацьлегласць — у крыніцу дэзарганізацыі эканомікі. Патрабаванне адмены прадразвёрсткі стала асноўным генератарам сялянскіх паўстанняў.

Адмову ад ваеннага камунізму на карысць НЭПа правадыр сусветнага пралетарыяту ажыццявіў пад прыкрыццём прызыву «вучыцца ў сялян спосабам пераходу да лепшага ладу і не мець права камандаваць».

Што мы маем у сухой рэшце? Магчымасць аўтарытарнага/таталітарнага палітыка кіраваць «плынню думак» у ручным рэжыме, зыходзячы з уласных уяўленняў аб тым, што такое добра, а што такое дрэнна, блізкая да нуля. Усё, на што ён здольны, — гэта асядлаць хвалю грамадскіх настрояў.




### Гісторыя паўтарылася

Здавалася б, са з'яўленнем радыё і тэлебачання магчымасць фармаваць грамадскую думку «пад заказ» істотна пашырылася. Але чаму ж тады камуністы дапусцілі распад СССР? Іх манаполіі на інфармацыю супрацьстаяў толькі самвыдат ды «галасы», якія з цяжкасцю прабіваліся праз глушылкі. Няўжо яны не ўсведамлялі, якія насоўваюцца пагрозы?

У гэта верыцца з цяжкасцю. Ужо Юрый Андропаў — экс-старшыня КДБ, які кіраваў у 1956 годзе здушэннем паўстання ў Венгрыі, — як толькі прыйшоў да ўлады ў СССР, спрабаваў стабілізаваць сітуацыю за кошт умацавання дысцыпліны. Аднак усе яго спробы кіраваць «плынню думак» шляхам барацьбы «з непрацоўнымі даходамі і з так званымі лятунамі, прагульшчыкамі, гультаямі, бракаробамі, нахлебнікамі грамадства» аказаліся марнымі.

Ва ўмовах глыбокага крызісу ўсёй сістэмы чарговая спроба «закруціць гайкі» не спрацавала. «Плынь думак» насуперак намаганням прапаганды сама скіравалася прэч ад звыклых савецкіх каштоўнасцяў да каштоўнасцяў ліберальных (псеўдаліберальных, як гэта бачыцца з дня сённяшняга). Яна і ўзнесла на вяршыню ўлады ініцыятара «новага мЫслення» Міхаіла Гарбачова.

Але паслабленне таталітарнай дзяржавы, прынятае інтэлігенцыяй за дэмакратызацыю, абярнулася клонам саветызацыі 1918 года. Пад ціскам знізу цэнтральная ўлада страціла сваё манапольнае права на распараджэнне дэфіцытам. Перасоўванне гэтага права на ўзровень рэспублік і ніжэй разбурыла «саюз непарушны» гэтак жа імкліва, як і яго імперскага папярэдніка. Падзеі жніўня 1991 года наглядна паказалі, што ў агульнанароднай дзяржаве практычна не знайшлося тых, хто гатовых устаць на яе абарону.

Дэфіцыт спажывецкіх тавараў ад гэтага не знік. Насельніцтва ў чарговы раз адчула, што яго падманулі. Каштоўнасці, якія яшчэ ўчора віталіся масавым падкідваннем чэпчык, апынуліся ілжывымі. А мы ўжо ведаем, што ў адказ на распад эканамічных сувязяў і спароджаны ім хаос «плынь думак» робіць разварот на 180°. На календары быў 1994 год.

### Ад жыцця, а не ад схемаў

Герой маіх «азбук паліталогіі» ішоў да сваёй першай электаральнай перамогі з крытыкай дзеючай улады за яе карупцыйнасць, а не за нізкую эфектыўнасць. Апошняе назіранне вельмі істотнае. Яно сведчыць пра перавагу традыцыяналісцкай свядомасці сярод беларусаў. Такая свядомасць заклапочаная барацьбой з пярэваратнямі зла, а не барацьбой за каштоўнасці развіцця і прагрэсу.

Але ўнікальнасць Беларусі не абмяжоўвалася перавагай традыцыяналісцкай свядомасці. «Усе — ад азербайджанцаў да венграў, — напісаў у 1995 годзе палітолаг Дзмітрый Фурман, — могуць бачыць у камуністычным перыядзе час расійскага панавання, у камунізме — сістэму, навязаную рускімі, а ў вызваленні ад яго — вызваленне ад «маскоўскай тыраніі». Усе, акрамя Расіі. Таму ў Расіі барацьба з камунізмам не магла адначасова стаць і барацьбой за нацыянальнае вызваленне. А ў Беларусі?

Для прыхільнікаў БНФ нацыянальнае пачуццё і антыкамунізм былі «аднавектарныя». Але «нацыяналісты» апынуліся ў меншасці, і на першых прэзідэнцкіх выбарах у 1994 годзе будучы АП перамог пад лозунгам аднаўлення сувязяў з Расіяй. Гэты курс ён паслядоўна праводзіць на працягу 20 гадоў, нязменна збіраючы з яго палітычныя дывідэнды.

Згодна з прызнаннем акадэміка Анатоля Рубінава, АП «выбудоўвае сваю палітыку, адштурхваючыся ад зямлі, ад жыцця, а не ад якіх-небудзь тэарэтычных схемаў і абстрактных лагічных пабудоў». З гэтым варта пагадзіцца. Носьбіты традыцыяналісцкай свядомасці не схільныя да рэфлексіі. Таму АП і так званая беларуская «большасць» выдатна зразумелі адзін аднаго ў 1994 годзе, і для гэтага будучаму трыумфатару не давялося кіраваць «плынню думак».

Тое, што мы прыплылі не туды — зразумела нават традыцыяналістам. Але нямногія ўсведамляюць, як далёка мы прасунуліся не туды. На жаль, у іх лік не ўваходзяць надзеленыя правам прымаць рашэнні.

АП — не Ленін. Калі «плынь думак» пад ціскам новай рэальнасці крута развернецца, ён не зможа паўтарыць манеўр. І тады ў яго не застанецца іншага выбару, акрамя як паспрабаваць стаць папярок плыні. Мала пры гэтым нікому не падасца.

# Статкевіч: Трэба пражываць сваё жыццё, а не чужое

Аксана КОЛБ

**Упершыню за шмат гадоў экс-кандыдат у прэзідэнты, экс-палітвязень, сацыял-дэмакратычны лідар, проста выдатны чалавек і шчаслівы муж адсвяткуе свой дзень народзінаў не за кратамі, а сярод родных і сяброў. 12 жніўня Мікалай Статкевіч адзначае сваё 60-годдзе. Гледзячы на гэтага поўнага агню чалавека нават язык не паварочваецца назваць яго амаль пенсіянерам.**



***— Спадар Мікола, што для вас вашы 60 гадоў?***

— Па-першае, гэта ўзрост, так што прымаю спачуванні (смяецца). Псіхалагічна гэта цяжкаватая дата, бо мы ж ведаем, якая працягласць жыцця ў нашай краіне, асабліва сярод мужчын. Але гэта дакладна не нагода, каб падводзіць якія-небудзь вынікі. Бо якія вынікі можна падводзіць у нашай сітуацыі? Беларусь ёсць, але яна пад пагрозай. Трэба нешта рабіць, каб яе захаваць, колькі хопіць сіл... Таму нельга спыняцца, а вынікі будзем падводзіць у дэмакратычнай Беларусі, за якую яшчэ трэба пазмагацца...

***— З шасцідзесяці пражытых гадоў — больш за 20 — гэта тое самае змаганне. Не падобна на змаганне з ветракамі?***

— Абсалютна не. Я памятаю тыя часы, калі здавалася, што Беларусь не ацалее і не выжыве. Але зараз я веру, што і ацалее, і выжыве... Таму ўсё, што робіцца, не марнае.

***— Няўжо ні разу не было жадання спыніцца, пайсці іншым шляхам?***

— Спыніцца ў чым? Перастаць любіць сваю краіну? А як жа пачуццё адказнасці? Я свой выбар зрабіў. Тым больш, што ў мяне жыццёвыя варыянты былі розныя, было з чаго выбіраць. Я быў паспяховым афіцэрам, паспяховым навукоўцам і нават распачынаў свой паспяховы IT-бізнес напачатку 1990-х гадоў. Але я выбраў па сабе. Людзі розныя. І галоўнае — ведаць сябе, выбіраць па сабе, не выбіраць чужое.

***— І няма зараз шкадавання ні пра што?***

— Абсалютна няма. Гэта калі казаць пра прынцыповы жыццёвы выбар. А так у жыцці, канечне, ёсць тое, пра што можна пашкадаваць. Нельга ж прайсці па жыцці нікога не штурхнуўшы, нікога не пакрыўдзіўшы, вось пра гэта і шкадуеш. Але гэта з асабістага.

***— А пра што з асабістага шкадуеце?***

— Пра асабістае я не буду казаць. Я ведаю, што людзі любяць пра гэта пачытаць, паназіраць праз шчыліну ў замку. Але гэта маё жыццё. І я не буду пра яго расказваць шырокаму колу. Я і так пражыў столькі гадоў, можна сказаць, пад павелічальным шклом, калі мой кожны чых фіксаваўся. Таму хоць зараз дайце мне асабістую прастору.

***— Тады вернемся да грамадскага. Зараз увесь інтэрнэт абмяркоўвае ваш заклік выйсці на плошчу 12 верасня. Навошта? Не баіцеся, што можаце апынуцца на плошчы ў адзіноце?***

— Гэта не важна, колькі чалавек выйдзе на Плошчу. Важна захоўваць уласную годнасць. І мая годнасць, маё пачуццё адказнасці падказваюць мне, што нельга ўвесь час быць хлопчыкам для біцця. Зараз зноў усю нацыю зневажаюць гэтым танным спектаклем. І што, усе павінны выцерціся моўчкі і ісці далей, у тым ліку некалі крутыя апазіцыйныя партыі? Гэта не проста непавага да сябе. Гэта ўжо праца супраць Беларусі. Бо калі тыя, хто ўзяў на сябе ролю альтэрнатыўных эліт, выразнікаў нацыянальнай ідэі, будуць сябе так паводзіць (быць хлопчыкамі для біцця), яны гэту нацыянальную ідэю, будуць зневажаць, ганьбіць і дыскрэдытаваць у вачах людзей. А людзі ж выбіраюць, ацэньваюць ідэі па ўчынках, па тых, хто прэзентуе ідэі. Таму, калі ты выбраў Беларусь, ты нечым дзеля яе рызыкуеш і ахвяруеш. Інакш не маеш права называць сябе лідарам.

Не ведаю, колькі выйдзе людзей 12 верасня. Для мяне істотна, што прыйду я. Галоўнае — ісці сваім шляхам і захаваць сваю годнасць.

А мой шлях — гэта рабіць усё, каб Беларусь была свабоднай і дэмакратычнай.

***— Калі стала зразумела, што гэта ваш шлях, што выбар канчаткова зроблены?***

— Вельмі часта людзі — і я не выключэнне — робяць нейкія крокі інтуітыўна, робяць тое, што ідзе з душы, а потым праз пэўны час асэнсоўваюць і тлумачаць. Я знайшоў тлумачэнне, калі быў час, на першай хіміі. А да таго моманту гэта проста былі мае натуральныя ўчынкі, я быў сабой.

Тое, што назад павярнуць нельга, я зразумеў падчас адной сустрэчы ў вучэбным цэнтры ў Барысаве, калі стваралася Беларускае згуртаванне вайскоўцаў. Тады былі людзі, якія хацелі зрабіць сапраўды нацыянальную беларускую армію. Памятаю двух маёраў, якія на той сустрэчы трымалі націск вышэйшых чыноў. Я разумеў, што гэта няпроста для людзей, якіх з 17 гадоў вучылі падпарадкоўвацца тым, у каго больш зорак. І, па шчырасці, быў уражаны. Пасля я падышоў да аднаго з тых маёраў і запытаўся, ці не страшна яму ісці супраць сваіх начальнікаў. Ведаеце, што ён адказаў? «Калі бывае становіцца страшнавата, — сказаў ён, — я ўспамінаю 20 жніўня 1991 года, нам усім было так страшна, і тут я ўключаю радыё і чую, як вы заклікаеце не слухаць злачынных загадаў і не страляць у свой народ. А гэты ж заклік фактычна трапляў пад расстрэльны артыкул. І я думаю: яму ж, напэўна, было больш страшна, але ён гэта зрабіў. Дык чаго ж я зараз баюся?»

Тады я зразумеў, што назад шляху няма. Прынамсі, калі захоўваць сябе і сваю годнасць. І спачатку, па шчырасці, гэта ледзь не загнала мяне ў дэпрэсію. Але пасля я зразумеў, што кожны чалавек павінен пражываць сваё жыццё — не чужое. Ісці сваім шляхам. А каб ісці па ім годна, не трэба баяцца. Я вельмі часта ўзгадваю тую размову.

> **Не важна, колькі чалавек выйдзе на Плошчу. Для мяне істотна, што прыйду я. Галоўнае — ісці сваім шляхам і захаваць сваю годнасць**

***— Такім чынам, ісці сваім шляхам і весці за сабой людзей Мікола Статкевіч не баіцца? А засталося што-небудзь, чаго вы баіцеся?***

— Любы нармальны чалавек баіцца за сваіх блізкіх. Я дагэтуль забараняю сваім дзецям прыязджаць сюды, бо баюся за іх. Я баюся за сваю жонку, Марыну. Увесь час за кратамі я стараўся гэта хаваць, але яны гэта ўсё роўна ўбачылі. Таму і адбыўся той замах на Марыну (маецца на ўвазе аварыя, у якую трапілі Марына Адамовіч і адвакат Аляксандр Галіеў, калі ехалі са спаткання са Статкевічам у турме. — рэд.). Ну і, зразумела, як любы нармальны мужчына я баюся згубіць сябе.

***— Што значыць для вас ваша Марына?***

— Гэта ўжо пытанне з асабістага, але на яго я адкажу. Мы з ёй, можна так сказаць, адной крыві. Мы глядзім на гэты свет аднолькава, што вельмі важна. Бо бывае, што людзі застаюцца самотнымі, нават калі жывуць разам. Але са мной побач ёсць чалавек, які мае аднолькавыя каштоўнасці, які гатовы мяне падтрымаць, калі мне гэта будзе трэба. І я гатовы яе падтрымаць. Гэта вельмі істотна. Гэта не юнацкія пачуцці, гэта не проста жарсці — гэта нешта большае, глыбокае. Мне з Марынай пашчасціла. Я ёй удзячны за гэта. Я раней бы ў турме ніколі б так не адказаў, бо вельмі за яе баяўся.

***— Дык можа час плюнуць на ўсё гэта змаганне? З'ехаць куды падалей і жыць звычайным жыццём, без Плошчы, сутак, штрафаў, турмы? Разам з каханай, побач з дочкамі і ўнукамі?***

— На што плюнуць? На краіну? Для мяне Беларусь, хай гэта прагучыць пафасна, — частка мяне самога.

Акрамя таго, што значыць нармальнае жыццё? Яшчэ раз паўтаруся, у кожнага сваё жыццё. І ў маім жыцці няма месца звычайным радасцям абывацеля (смяецца). А сур'ёзна, калі я з'еду, буду жыць ціха і спакойна — гэта будзе, напэўна, для кагосьці самае нармальнае жыццё, але гэта будзе не маё жыццё. У мяне было шмат часу, асабліва ў адзіночцы, каб пра ўсё гэта падумаць, усе асэнсаваць і для сябе зразумець. Таму зараз я дакладна ведаю, што ў любым узросце, здаровым ці хворым, я буду намагацца хоць што-небудзь зрабіць для краіны, без якой сябе не ўяўляю. І дзякуй Богу, зараз моцы ў мяне дастаткова.

***— А ўлады спрабавалі выціснуць з краіны?***

— Безумоўна. Было па-рознаму. Былі дабразычлівыя, якія прапаноўвалі з'ехаць. У СІЗА КДБ невядомыя ў масках казалі: ну хопіць ужо, едзь да ўнукаў у Германію. Быў у камеры падсадны з прэс-хаты... Пастаянна гучала гэта тэма. Я нават на ёй займеў пэўны магчымасці ў турме. Я пачаў казаць: «Ды я б з'ехаў, але мову не ведаю». І калі ў крытай турме, у адзіночцы, я падаў заяву на моўныя курсы, то на поспех асабліва не спадзяваўся, але атрымаў дазвол. Ім так хацелася, каб з'ехаў (смяецца).

***— Ну, калі не з'ехалі, то давядзецца юбілей святкаваць. А з кім і як вы будзеце гэта рабіць?***

— Я па шчырасці, не надта разумею, нашто наогул адзначаць дні народзінаў пасля 25 гадоў. Але паколькі гэтым разам я не за кратамі, то, напэўна, прыйдзецца. Гэта ўжо амаль палітычнае мерапрыемства (смяецца). Магчыма, давядзецца адзначыць у некалькі этапаў. Запрашу сваіх сяброў і таварышаў па партыі, безумоўна, будзе бацька, брат. Ну і, канечне, мая Марына, на ўсіх этапах святкавання.

Дарэчы, хачу скарыстацца нагодай і падзякаваць усім журналістам друкаваных СМІ, што да мяне даходзілі, якія віншавалі мяне з Днём народзінаў за кратамі. Гэта «Новы Час», «Наша Ніва», «Народная Воля», «Белгазета». Там, за кратамі, віншаванне ў газеце было прыемнай акцыяй у маю абарону, гэта быў пэўны крытэр маёй абароненасці. Дзякуй вам вялікі!

* * *

***Рэдакцыя газеты «Новы Час» шчыра віншуе Міколу Статкевіча з 60-годдзем! Зычым здароўя, прагі жыцця, плёну ва ўсім і захавання сябе!***

Ў Гэта я — беларускамоўны

# «Беларусь дрэмле

**Баскетбаліст, архітэктарка, супрацоўнік Акадэміі навук, дырэктарка хоспіса — уладальнікі такіх прафесій распавядаюць свае асабістыя гісторыі «беларускамоўнасці». Перапіс беларускамоўных людзей, арганізаваны курсамі «Мова нанова», у якім прынялі ўдзел каля дзвюх тысяч чалавек, засведчыў, што па-беларуску можа гаварыць абсалютна кожны — незалежна ад нацыянальнасці і прафесіі.**




**Аляксандр Куль, баскетбаліст, Мінск**

— Я нарадзіўся з беларускай мовай і жыў з ёю першыя 12 гадоў. Дома ў сям'і размаўлялі не на чыстай беларускай мове, але калі з'язджаў кожнае лета да бабулі, то там ужо былі тры месяцы выключна па-беларуску. Пасля таго, як пачаў займацца баскетболам, выправіўся ў спартовы інтэрнат у Віцебск, дзе ўсе размаўлялі толькі па-руску. Каб з мяне не кпілі, каб мяне не ўспрымалі як вясковага хлопчыка, давялося ад беларускай мовы адмовіцца. У 12 гадоў цяжка быць аб'ектам жартаў. Іх і так было дастаткова ў сувязі з маімі габарытамі (цяпер рост спартоўца — 213 см.), а калі пачаліся кпіны і пра маё паходжанне з вёскі… Падчас маёй вандроўкі ў ЗША, дзе я правёў 4 гады, навучання ва ўніверсітэце і гульні за баскетбольныя клубы ў розных еўрапейскіх краінах, цягам дзесяці гадоў беларускую мову амаль не ўжываў — толькі часам чытаў. Такім чынам, крышку на яе забыўся.

Але, калі пачаў займацца распрацоўкай беларускамоўнага брэнда баскетбольнага клуба «Цмокі-Мінск» і больш сустракацца з людзьмі, што размаўляюць на беларускай мове, яна пачала вяртацца ў маё жыццё. Праўда, у паўсядзённым жыцці карыстаюся ёй, толькі калі размаўляю ці пішу беларускамоўным людзям. Яшчэ не прыйшоў да таго, каб ужываць яе стала. Працаваць з беларускамоўным брэндам, яго развіваць, спрыяць станаўленню — гэта задавальненне. Ты не толькі прасоўваеш свой брэнд, але і папулярызуеш родную мову.

**Аляксандра Баярына, архітэктарка, Мінск**

— Беларуская мова ўвайшла ў маё жыццё нечакана. Шмат гадоў я была як усе, зарабляла грошы, хацела вандраваць па свеце. Аднойчы прыйшло жаданне стварыць у прафесіі нешта новае і вартае, а праца дызайнера і архітэктара сёння арганізавана так, каб наватарства выключыць. Матэрыялы замежныя, распрацаваныя іншымі дызайнерамі, тэхналогіі — таксама. Акрамя таго, матэрыялы ў большасці выпадкаў не ўнікальныя, серыйнай вытворчасці, і маюць абмежаваную колькасць варыянтаў формаўтварэння, — то бок дыктуюць архітэктару, што рабіць. Што вартае можна стварыць у такіх умовах?




Некалькі гадоў разважанняў на тэму «адкуль увогуле бярэцца новае і вартае» паказалі, што неабходна мець сваю, скажам так, рэгіянальную сістэму кардынат, адпавядаць месцу, ведаць сваю гісторыю, развіваць сябе на сваім шляху, што без мовы, відавочна, немагчыма. Карацей, быць ці не быць, працаваць у нацыянальнай культуры ці выконваць ролю хваста замежных культур?

Дома цяпер заўсёды карыстаюся беларускай мовай — перайшлі разам з мужам. Па тэлефоне з замоўцамі і будаўнікамі размаўляю па-руску, з сябрамі, з кім заўсёды на рускай размаўляла, на рускай і працягваю. Спрабую сабрацца з думкамі, каб перайсці на беларускую цалкам. Весела, калі трасянкай размаўляем. У нас можна пачуць і «я ў шоцы», муж весяліцца ад майго «коўту адзень», кажа, а «асфальт» у цябе будзе «асўальт»?

**Уладзімір Шыпіла, супрацоўнік Нацыянальнай акадэміі навук, Наваполацк**

— Беларуская мова была блізкая майму духоўнаму свету з дзяцінства. Мае абодва бацькі, Аляксандр Віктаравіч Шыпіла і Людміла Канстанцінаўна Фёда-

# Галоўная бяда беларусаў

Леанід ЛЫЧ,
Мікола САВІЦКІ

**Сёлетні 2016 год абвешчаны Годам культуры — але не беларускай. Пра гэта сведчыць усё, што робяць улады.**



На афіцыйны Дзень незалежнасці 3 ліпеня Аляксандр Лукашэнка ў сваёй прамове — пра культуру ні слова. На запозненым V Усебеларускім народным сходзе праблемы мовы і культуры абыйдзены. У выступленні кіраўніка дзяржавы на адкрыцці Віцебскага «Славянскага базару» таксама амаль нічога не прагучала пра становішча беларускай нацыянальнай культуры. Падчас асноўных мерапрыемстваў гэтага года праблемы беларускай культуры засталіся ўбаку.

Самай страшнай бягучай бядой беларусаў ёсць свядома здзейсненае амаль татальнае вытурэнне беларусаў са сваёй прыроднай моўнай і нацыянальна-культурнай нівы. Не баймся памыліцца ў сваіх падліках: на рускае даводзіцца не менш як 90 працэнтаў, а на беларускае — жабрацкія 10 працэнтаў. У такіх экстрэмальных умовах нельга захаваць беларускі народ ад этнічнага вымірання. У падмурку гэтага перакосу ляжыць глыбока, усебакова прадуманая, жорсткая дзяржаўная палітыка русіфікацыі беларусаў. Незвычайную агрэсіўнасць набыла яна пасля правядзення ў маі 1995 года рэферэндуму, згодна з якім рускую мову юрыдычна прыраўнялі да беларускай. Нагадаем, што моўнае пытанне належыць да тых, якія на рэферэндум не выносяцца.

На практыцы вынікаў ані першага, ані другога рэферэндумаў улады не прытрымліваліся. Яны рабілі ўсё, каб толькі руская мова абслугоўвала ўсе сферы грамадскага жыцця. Адным словам — суцэльная русіфікацыя. На працягу апошніх больш як 20 гадоў беларуская мова і дня не знаходзілася ў статусе фактычна дзяржаўнай! Па сутнасці ўсё палітычнае кіраўніцтва краіны з дня ў дзень груба парушала і сёння парушае канстытуцыйнае палажэнне аб абавязковым выкарыстанні беларускай мовы ў сваёй практычнай дзяржаўнай дзейнасці. Лічым, што гэта з'яўляецца адным з самых сур'ёзных палітычных злачынстваў. І гэта з боку тых, хто надзелены ўладай, хто ў адказе за этнічнае здароўе нацыі.

На вялікі жаль, знявага ўладамі дзяржаўнай беларускай мовы не выклікае асэнсаванага супраціву з боку беларускага народа. Супраць яго антынацыянальнай культурна-моўнай палітыкі выступаюць толькі адзінкі неасіміляваных, стойкіх, шчырых беларускіх патрыётаў. Іх высілкаў не хапіла, каб выратаваць краіну ад унутранай і знадворнай рускай культурна-моўнай асіміляцыі. Нацыянальна зняважаная чыноўніцтвам суверэнная Рэспубліка Беларусь практычна згубіла сваё этнакультурнае аблічча. Улады ўсяляк стараюцца не выносіць на публічнае абмеркаванне гэтае архідалікатнае пытанне.

**Ужо сёння беларускі моўны нігілізм уяўляе сабой галоўную рэальную пагрозу не толькі для захавання беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці, але і суверэнітэту краіны**

Сваёй заганнай нацыянальнай палітыкай улады, можна смела сцвярджаць, прывялі беларускую мову на ГАЛГОФУ. Галоўнае, адметнае, самабытнае багацце дзяржаўнага народа Рэспублікі Беларусь укрыжаванае.

Калі дзяржава і надалей будзе ўсяляк стрымліваць уводзенне беларускай мовы ў афіцыйнае жыццё, то народ не толькі не будзе валодаць і карыстацца ёю, але нават не захоча і чуць яе, прычым і з вуснаў артыстаў драматычных тэатраў, эстрадных і оперных спевакоў, удзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Гэтымі словамі мы не збіраемся пужаць палітыкаў, але ім трэба ведаць, што ўжо і сёння беларускі моўны нігілізм уяўляе сабой галоўную рэальную пагрозу не толькі для захавання беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці, але і суверэнітэту краіны. На ўсёй постсавецкай прасторы пазіцці «русского мира» нідзе не вызначаюцца такой трывалацю, як у Беларусі, падрываючы яе дзяржаўныя асновы. Гэта негатыўна ўплывае на імідж краіны ў цывілізаваным свеце, які шануе краіны з самабытным, арыгінальным этнакультурным жыццём, а не тыя, што не ў меру спажываюць чужыя духоўныя каштоўнасці, анямелі ў роднай мове. У гісторыі Еўропы не знойдзеш народа, акрамя беларускага, мову якога сама дзяржава не пускала ў афіцыйную сферу. Нашая сучасная культура з яе таўшчэзным напластаваннем усяго рускага пакідае Беларусь без будучыні, ператварае яе ў нацыянальным плане ў бясплодную пустэчу.

Нацыя без нацыянальнай культуры, калі чужое пануе над уласным, не можа быць багатай.

# ў кожным...»




рава — паэты. Тата быў родам з Расіі, Тульскай вобласці, і пісаў на роднай яму рускай мове. А маці — з Міёршчыны, піша на беларускай і рускай мовах. Бацькі падтрымлівалі сяброўскія адносіны з такімі цудоўнымі паэтамі і пісьменнікамі полацкай зямлі, як Уладзімір Арлоў, Алег Мінкін, Вінцэсь Мудроў, Алесь Аркуш, Ірына Жарнасек, Юрась Касцюк, Анатоль Атрахімовіч, Змітрок Куніцкі і з шмат кім іншым.

У дзяцінстве мая маці часта брала мяне на літаратурныя імпрэзы, у хаце было багата беларускамоўных выданняў, некаторы час матуля працавала ў школе настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Таму ўжо з дзяцінства сфармавалася добрае стаўленне да беларускай мовы і культуры. Дзесьці з 9 да 14 гадоў у маім жыцці адбыўся перапынак, выкліканы «агульнарускім» — заходнерусісцкім уплывам — праз школу, царкву і нядзельную школу, дзе аніякай беларускасці не было. Значным для мяне было знаёмства ў 2004 годзе, у дзявятым класе, з Андрэем Мікалаевым, кіраўніком рыцарскага клуба «Жалезны воўк». Менавіта там я даведаўся пра нашае славутае мінулае і ачысціў свой розум ад напластаванняў заходнерусізму. Праз гэта з'явілася жаданне самому ствараць штосьці на роднай мове.

Былі ў маім жыцці і творчыя эксперыменты: з 15–16 гадоў пачаў пісаць вершы — першыя спробы былі страхалюдныя. Пасля «спяваў» у метал-гурце, наіўна верыў, што беларускамоўны метал уратуе Беларусь. Больш стала я пачаў размаўляць на чацвёртым курсе ўніверсітэта. З цягам часу навучыўся пісаць неблагія вершы...

Я з'яўляюся малодшым супрацоўнікам Інстытута гісторыі НАН Беларусі, таму натуральна, што кожны дзень на працы я размаўляю па-беларуску. Лічу, што супрацоўнікі ВНУ як ніхто іншы мусяць карыстацца нашай роднай мовай. Беларуская мова для мне асалода, я магу на ёй звяртацца да Бога і каханай, да бацькоў, блізкіх і сяброў.

Дзіўна мне было ў школе, калі з-за некалькіх выказванняў па-беларуску мне задалі пытанне: «Ці не ўступіў ты ў БНФ?» Смешна было, калі ў Львове мяне прымалі за паляка, і дзяўчаты-прадавачкі пасміхаліся з маіх няўдалых спроб перайсці з беларускай на ўкраінскую. Смешна, што калі пісаў вершы па-руску, мне казалі, што не зразумела, хто пісаў: хлопец ці дзяўчына. Калі паказваў вершы, напісаныя па-беларуску, адзначалі: «Нармальны такі хлапечы верш».




**Вольга Шульга, дырэктарка хоспіса, Гродна**

— За маё жыццё шмат людзей пыталі мяне, чаму я размаўляю па-беларуску і як я прыйшла да гэтага. Але родная мова была для мяне першай. Я нарадзілася ў сям'і, дзе больш размаўлялі па-беларуску, чым па-руску. Калі збіралася ўся вялікая сям'я за сталом, усе дзеці чулі беларускую мову. З самога дзяцінства мы слухалі радыё «Свабода». Мой дзядуля мог змайстраваць радыё, і ў 90-я гады мы прачыналіся і засыналі пад «Свабоду». Дзядуля добра недачуваў, таму радыё гучала на ўсю хату, нягледзячы на заўвагі бабулі: «Уся вёска чуе, дзеці заснуць не змогуць». Сёння, калі мяне пытаюць, чаму я размаўляю па-беларуску, я наўпрост адказваю: «Гэта мовы маёй прабабулі, якая спявала мне ў дзяцінстве, гэта мова майго дзядулі, які кожны дзень размаўляў са мной, гэта мова, якую я хачу, каб кожны дзень чулі мае дзеці».

Складана размаўляць па-беларуску кожны дзень, калі 99 працэнтаў твайго асяроддзя ўжываюць рускую мову. Але я імкнуся казаць на роднай мове, дзе гэта толькі магчыма.

Усе мерапрыемствы, якія ладзіць Гродзенскі дзіцячы хоспіс, пачынаюцца маёй прамовай па-беларуску. Для людзей гэта дзіўна і цікава адначасова. Вельмі стараюся, каб мае дзеці чулі родную мову. Калі дачцэ было тры гады, шмат чаго яна не разумела і ўдакладняла, пра што я кажу. Зараз, пасля летніх вакацый у вёсцы, яна разумее і часамі ўжывае толькі беларускія словы, якія чуе ўжо ад сваёй бабулі.

Мой бацька нарадзіўся ў Полацку, беларускую мову ведае дрэнна, хоць і жыве на Гродзеншчыне больш за трыццаць гадоў. Аднойчы мы з сям'ёй гулялі ў настольную гульню «Разам». Якое было наша здзіўленне, калі наш бацька здолеў не толькі перакласці складаныя словы, але атрымаў велізарную асалоду ад гульні. Такіх выпадкаў у маім жыцці было шмат. І кожны раз яны сведчаць толькі пра адно — Беларусь дрэмле ў кожным. А наша мова — шлях да разумення сябе і свайго месцаў жыцці.

# у Беларусі




З кожным днём беларусы аддаляюцца ад нацыятворчага працэсу, бо дзяржава іх усё больш і больш зрусіфікоўвае, упарта не пускаючы ў афіцыйнае жыццё беларускую мову. І самае страшнае, што ёй не даюць месца ў дашкольнай, школьнай сістэмах выхавання і навучання, сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай школе. Тут масава рыхтуюцца новыя пакаленні рускамоўнай інтэлігенцыі, амаль зусім не здольныя быць носьбітамі беларускага нацыянальнага духу.

Ведаем, што нялёгка змяніць сітуацыю пры страшэнным дэфіцыце сапраўдных нацыянальных лідараў сярод палітыкаў, асабліва высокага рангу. Шараговыя ж функцыянеры не ў стане ўзняць народ на самаадданае змаганне за этнічнае выжыванне. Ужо стала гістарычным фактам, што сярод 2500 дэлегатаў V Усебеларускага народнага сходу не знайшлося аніводнай смелай асобы, якая не збаялася б ушчэнт разнесці неадпаведную карэнным інтарэсам Бацькаўшчыны дзяржаўную культурна-моўную палітыку, паказаўшы, што апошняя вядзе не толькі да поўнага размывання нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў, але і да страты палітычнага суверэнітэту краіны.

А некалі ж былі ў нас палітыкі-патрыёты, гатовыя прыняць нават смерць, каб толькі родны край не стаў жаданай здабычай для чужой дзяржавы. Згадаем тут пра гераічны чын пасла (дэпутата) ад Навагрудскага ваяводства Тадэвуша Рэйтана, які мужна супраціўляўся спробам вальнага Сойма Рэчы Паспалітай зацвердзіць здрадніцкі акт аб першым падзеле Рэчы Паспалітай (1772 г.). Дамагчыся такога паслу-патрыёту не ўдалося. Тады ён, каб перашкодзіць паслам пакінуць залу пасяджэнняў, лёг крыжам ля дзвярэй і на ўвесь голас закрычаў: «Забіце мяне, затапчыце, але не забівайце Бацькаўшчыны!» А меў жа ён тады трохі больш за 30 гадоў! А колькі сапраўдных беларускіх нацыянальных герояў, прычым высокаадукаваных для свайго часу, улілося і самаахвярна змагалася ў 1863–1864 гадах у шэрагах нацыянальна-вызвольнага паўстання на чале з Кастусём Каліноўскім! Сёння нам вельмі патрэбны такія герої-патрыёты, без якіх нельга разлічваць на поспех нацыянальна-культурнага адраджэння беларускага народа, захаванне дзяржаўнага суверэнітэту яго Бацькаўшчыны.

Галоўнай прычынай нашага незайздроснага сацыяльна-эканамічнага становішча, неўтаймаванай карупцыі трэба шукаць найперш у сур'ёзных хібах, поўнай дэзарганізацыі этнакультурнага жыцця краіны, у дэфармаванай нацыянальнай свядомасці народа. Усякі этнічна зацюканы народ, дый яшчэ ўласнай дзяржавай, не можа быць актыўным у любой сферы грамадскай дзейнасці чалавека, у тым ліку і ў сацыяльна-эканамічнай.

Лёсавызначальнай праблемай нумар адзін ёсць этнакультурная. У нашы дні страшэннай нацыянальнай дэградацыі беларусаў з-за іх найчасцей вымушанага сыходу са сваёй культурна-моўнай нівы на чужую не бачаць толькі абсалютна сляпыя людзі. А гэта трэба бачыць, асабліва палітыкам — і рэагаваць. Беларусы не па сваёй волі сёння ўжо не ўяўляюць сабой самабытную арыгінальную нацыю, паколькі жывуць пераважна не сваімі, а рускімі культурна-моўнымі каштоўнасцямі, нават робяць істотны ўнёсак у іх стварэнне, папулярызацыю на беларускай зямлі, атрымліваючы за гэта не толькі зарплату, але і ўрадавыя ўзнагароды. У дзяржаўным сектары эстрады ёсць асобы, якія і за 20–30 гадоў сцэнічнай дзейнасці не выканалі аніводнай беларускамоўнай песні і з гонарам ставяць сабе гэта ў вялікую заслугу.

Спадзявацца, што ў такой экстрэмальнай сітуацыі сам народ выкараскаецца з глыбокай асіміляцыйнай ямы, ніяк не даводзіцца. Тэрмінова патрэбная адпаведная нацыянальна-культурная, моўная палітыка дзяржавы, калі яна не на словах, а на справе жадае быць суверэннай, мець этнічна самастойную нацыю, а не адрынуты ад роднай мовы народ. Калі ў палітычнага кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь ёсць хоць кропля такога жадання, яно павінна не заўтра, а ўжо сёння правесці Усебеларускі народны форум і абмеркаваць на ім найгалоўную агульнанацыянальную праблему дня, даўшы ёй прыкладна такую фармулёўку: «Выратаванне беларускага народа ад страты этнакультурнай самабытнасці як галоўнага фактару захавання нацыянальнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь».

Аб'ектыўная рэальнасць вымагае ад кіраўніцтва рэспублікі калі не цалкам адмовіцца ад далейшага працягу русіфікатарскай палітыкі, дык мо хоць не з такой зацятасцю ажыццяўляць яе. А лепш пачаць шлях паступовага, але новага адраджэння беларусаў.

Аляксандр Лукашэнка ў гісторыю ўвойдзе альбо як русіфікатар беларусаў, альбо як стваральнік беларускай нацыі, беларускай нацыянальнай дзяржавы. Шанец яшчэ ёсць. Для пачатку трэба зрабіць так мала: вярнуць 17-ы артыкул першай Канстытуцыі, «Закон Аб мовах у Беларускай ССР», прынятыя камуністычным Вярхоўным Саветам, і Дзяржаўную праграму развіцця беларускай мовы.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УЗБЕКІСТАН. Музычны інструмент па-за законам

Як вядома, у часы Сталіна наяўнасць у чалавека саксафона лічылася знакам нелаяльнасці да савецкай сістэмы. Нешта падобнае адбываецца сёння ва Узбекістане, дзе з афіцыйных музычных пляцовак выганяюць тар. Тар — струнны музычны інструмент, знешне падобны на домру. Ёсць інфармацыя, што тэлеканалы дзяржаўнага тэлебачання, а таксама прадзюсарскія цэнтры, якія здымаюць відэакліпы, атрымалі вуснае ўказанне — не паказваць гэты інструмент і не выкарыстоўваць яго ў музычных творах. Акрамя таго, тар выключаны з праграм музычных навучальных устаноў і наогул не ўключаны ў рэестр нацыянальных узбекскіх музычных інструментаў, хоць ён там значыўся да 2012 года. Афіцыйная прычына кампаніі — інструмент не адпавядае нацыянальнаму менталітэту ўзбекаў. Што гэта значыць, ніхто не разумее. Адзіная версія — Ташкент пасварыўся з Баку і забараняе ўсё азербайджанскае. Лічыцца, што тар быў прыдуманы менавіта ў Азербайджане і з'яўляецца галоўным нацыянальным інструментам азербайджанцаў.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. З-за Brexit зменяць герб і пашпарт

Аматарам выхаду Вялікабрытаніі са складу ЕС мала фармальнага рашэння Лондану пачаць працэс разводу з Еўропай. Яны патрабуюць як мага хутчэй пазбавіцца ад усяго, што нагадвае пра ЕС. Не прайшлі еўракрытыкі і паўз цяперашні дызайн брытанскіх пашпартоў. Як ва ўсіх краінах ЕС, на вокладцы было напісана — «Еўрапейскі саюз». Блізкія да еўрафобаў СМІ заклікаюць урад увесці новыя дакументы, дзе не будзе згадкі пра абʼяднанне. Аднак гэта яшчэ не ўсё. Некаторым не падабаецца, што на каралеўскім гербе Вялікабрытаніі, які выяўлены на пашпарце, прысутнічаюць фразы па-французску: «Honi soit qui mal y pense» (фр. «Ганьба таму, хто кепска пра гэта падумае») і «Dieu et mon droit» (фр. «Бог і маё права»). Агучваецца ідэя выкрасліць з выявы гербу надпісы на чужой мове ў кантэксце сыходу краіны з ЕС. Натуральна, ад такіх прапаноў гісторыкі ў шоку: «Honi soit qui mal y pense» — дэвіз найстарэйшага англійскага Ордэну Падвязкі. Між тым, аматары жартаў прапануюць увогуле забараніць у Вялікабрытаніі пашпарты, бо слова «пашпарт» таксама мае французскія карані.

**Паводле французскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Каноплі выратуюць краіну

Намеснік прэм'ер-міністра Казахстана, дачка кіраўніка краіны Дарыга Назарбаева правяла нараду, падчас якой быў агучаны маштабны план развіцця ў краіне вытворчасці канопляў. З дапамогай наркатычнага рэчыва Дарыга збіраецца зрабіць прарыў у індустрыі, медыцыне, хіміі і г.д. Для рэалізацыі плана прапануецца аддаць пад каноплі частку казахскіх сельскагаспадарчых угоддзяў. Дарыга нават гатовая часткова легалізаваць марыхуану як медычны сродак. Ёсць у Дарыгі і адказ на чаканае пытанне: ці не справакуе маштабная культывацыя канопляў выбух наркаманіі? Намеснік прэм'ера кажа, што ў Казахстане ёсць схема перапрацоўкі канопляў, у выніку якой жмых, які змяшчае наркатычнае рэчыва, знішчаецца. Як і трэба было чакаць, публіка з сарказмам успрыняла ідэю дачкі Елбасы. На інтэрнэт-форумах хапае жартоўных каментараў кшталту таго, што хутка Астану перайменуюць у Новы Амстэрдам: як вядома, у Нідэрландах марыхуана знаходзіцца ў свабодным продажы.

**Паводле казахскай прэсы**

### ЧАРНАГОРЫЯ. Памерла апошняя «вірджына»

У Чарнагорыі ва ўзросце 85 гадоў памерла Станка Царавіч — апошняя «вірджына» ў краіне. «Вірджына» — гэта нешта сярэдняе паміж мужчынам і жанчынай. З канца XVIII стагоддзя на поўначы Чарнагорыі, у Косава і Албаніі некаторых дзяўчынак бацькі выхоўвалі як хлопчыкаў. Прычына — не нараджаліся ці рана паміралі сыны. А дом і зямля — гэта спадчына, якая на Балканах перадаецца толькі па мужчынскай лініі. Вось і з'яўляліся ў сем'ях без хлопчыкаў «вірджыны», якія былі гаспадарам дома. Станку Царавіч прызначылі хлопчыкам у 5 гадоў. Ужо ў 8 гадоў яна паліла, арала зямлю з бацькам, а потым навучылася страляць. Жанчын у грамадстве пазбягала, жаночую вопратку ніколі не насіла, а хатнія абавязкі ігнаравала. Гатаваннем, мыццём займаліся яе сёстры. Вольны час яна бавіла ў мужчынскіх кампаніях за размовамі, моцнымі напоямі і гульнямі ў карты. Апошнія дні яна была вымушаная шмат кантактаваць з турыстамі, якія адмыслова прыязджалі на яе паглядзець. Застаецца дадаць, што, па чутках, некалькі «вірджын» яшчэ жывуць у горных раёнах Албаніі.

**Паводле сацыяльных сетак**

# Ад піянеркі да першай лэдзі

Алег НОВІКАЎ



**У выпадку перамогі Дональда Трампа пасаду першай лэдзі ў ЗША можа заняць яго 45-гадовая жонка Меланія, вядомая мадэль, якая нарадзілася ў Славеніі. Пра тое, як успрымаюць феномен Меланіі Трамп на яе радзіме, распавядае славенскі выдавец Здэнка Кучан.**

***— Ці назіраецца ў цяперашняй Славеніі ўсплёск «меланіяманіі»?***

— Безумоўна, у краіне сочаць за выбарчай кампаніяй у ЗША і за тым, што непасрэдна робіць або заяўляе Меланія. Яе выява не сыходзіць з вокладак мясцовых таблоідаў. Меланію называюць нават "самай вялікай дачкой нацыі». Ужо паўстала практыка экскурсій у Севніцу, дзе нарадзілася і вырасла Меланія. У Севніцы анансавалі пераназыменаванне аднаго з тапанімічных аб'ектаў у яе гонар. Нешта я чула пра тое, што на рынку з'явілася віно «Меланія». Актыўна даюць інтэрв'ю ўсе, хто ведаў цяперашнюю місіс Трамп, пакуль яна не з'ехала з краіны ў 1996 годзе, у тым ліку яе суседзі і экс-бойфрэнды.

Праўда, інтарэс да выбараў у Штатах — не толькі праява нейкага гонару, што суайчыннік выбіўся так далёка наверх. Справа ў тым, што краіна дасюль знаходзіцца ў эпіцэнтры міграцыйнага крызісу. У мінулым годзе праз двухмільённую монаэтнічную краіну прайшоў караван у 500 тысяч чалавек. Гэта змяніла ўсё. Таму ваяўнічыя тэзы Дональда Трампа, што трэба ўвогуле не пускаць мігрантаў-мусульман, маюць пазітыўны рэзананс у Славеніі. Лозунг: «Дональд Трамп!» гучыць падчас вулічных маніфестацый правых. Прадаюцца бейсболкі з трампавым выбарчым лозунгам: «Make America great again». Падабаецца славенцам і тое, што Трамп крытыкуе Ангелу Меркель, якую народная думка зрабіла галоўнай адказнай за наплыў чужынцаў. Пры гэтым апускаецца пікантная дэталь: Меланія Трамп таксама ў свой час была эмігранткай, якая прыехала за акіян шукаць лепшай долі. Як і тыя, хто сёння намагаюцца прарвацца ў Еўропу праз нашу краіну.

***— Еўрапейская прэса любіць іранізаваць наконт таго, што Меланія ў дзяцінстве, якое выпала на часы сацыялістычнай Югаславіі, паспела пабыць у шэрагах піянераў. Некаторыя пішуць, што ў Белым доме ўпершыню ў гісторыі можа з'явіцца камуністка.***

— Наўрад ці сяброўства Меланіі ў шэрагах «Саюза піянераў Югаславіі» асабліва паўплывала на яе светапогляд. 1980-я гады, калі яна была піянеркай, былі эрай імклівай дэфрагментацыі мадэлі, якую пасля вайны пабудаваў Ціта. У грамадстве панавалі, галоўным чынам, індывідуальна-меркантыльныя настроі, набывалі моц сепаратысцкія ідэі, калі ўчорашнія чыноўнікі-камуністы масава перафарбоўваліся ў нацыяналістаў. Адным словам, для фармавання камуністаў грамадская атмасфера была не вельмі спрыяльнай. Увогуле, пры наяўнасці ў Меланіі камуністычных забабонаў, тыя так ці інакш былі ўжо агучаныя яе мужам. Яна кажа, што мае ўплыў на рэдакцыю тэкстаў прамоў Дональда. Аднак, як бачым, праграма ў Дональда Трампа, па вялікім рахунку, кансерватыўная.

***— Ці спадзяюцца славенцы на рост ролі Любляны ў міжнароднай палітыцы ў выпадку перамогі Трампа?***

**Калі натыкаюся на на выразы кшталту «ідыёт быў здольны знайсці жонку выключна сярод ідыётак», мне сорамна за наш народ. Аднак яшчэ больш няўтульна пры думцы, якіх дроў здольная наламаць Меланія, калі ўсё ж стане першай лэдзі**

— Фантазій на глебе таго, што Трамп-прэзідэнт, зрабіўшы вялікай Амерыку, кінецца рабіць вялікай Славенію, хапае. Напрыклад, мэр Севніцы сцвярджае, што краіну пасля перамогі Трампа чакаюць бязмежныя інвестыцыі. Аднак Славенія — занадта малая, каб уплываць на глабальны працэс нават у выпадку, калі асноўным дарадчыкам прэзідэнта ЗША будзе этнічная славенка. Мяркую, больш надзей на тое, што праз фігуру першай лэдзі ў свеце вырасце агульны інтарэс да Славеніі, што, у сваю чаргу, паспрые росту турсектару. Наступствам перамогі Трампа для лакальнай палітыкі можа быць рост уплыву правых, хаця, па шчырасці, практычна ўсе вядучыя палітыкі, у тым ліку і цяперашні сацыял-дэмакратычны прэзідэнт, ва ўнісон абяцаюць закрыць межы краіны для чужынцаў.

***— Як часта сама Меланія Трамп бывае на радзіме або згадвае пра яе?***

— Практычна адразу пасля эміграцыі яна намагалася як мага менш згадваць пра свае карані, нават прызнавалася, што ёй сорамна казаць, што яна славенка. Як правіла, яна распавядае пра бацькаўшчыну выключна як пра пройдзены этап сваёй біяграфіі. Зараз яна падтрымлівае камунікацыі з радзімай праз сваіх бацькоў, якія перыядычна наведваюць дачку ў Штатах.

***— Ці ёсць у Славеніі тыя, хто негатыўна ставіцца да фенаменальнага палітычнага ўзлёту сваёй суайчынніцы за акіянам?***

— Напэўна, я — адна з іх. Як аматару руху феміністаў, асоба Хілары Клінтан, якая мае шанец стаць першай жанчынай-прэзідэнтам ЗША, мне больш сімпатычная. Гэта добра паўплывае на актыўнасць жаночых арганізацый і ў Славеніі. Я таксама не хачу быць ахвярай дурных ілюзій пра магчымы бум амерыканскіх інвестыцый, разумеючы, што Славенія, мякка кажучы, не цікава Вашынгтону. Наўрад ці амерыканцы ўвогуле ведаюць, дзе наша краіна знаходзіцца на мапе.

Я пагаджуся, што Меланія Трамп сёння найбольш вядомая ў свеце славенка, аднак наўрад ці самая адукаваная ў сферы амерыканскай палітыкі. Свежы доказ — скандальны выступ кандыдаткі ў першыя лэдзі на рэспубліканскай партыйнай канвенцыі, які, як высветлілася пазней, быў плагіятам старой прамовы Мішэль Абамы. Калі я натыкаюся на амерыканскіх інтэрнэт-форумах на выразы кшталту «ідыёт быў здольны знайсці жонку выключна сярод ідыётак», мне трошкі сорамна за наш народ. Аднак яшчэ больш няўтульна пры думцы, якіх дроў здольная наламаць Меланія, калі ўсё ж стане першай лэдзі.

# Калі б рускія ўзялі Тбілісі

Алег НОВІКАЎ

**З нагоды гадавіны грузіна-расійскай вайны ў жніўні 2008 года ў прэсе з'явілася шмат альтэрнатыўных сцэнараў развіцця канфлікту васьмігадовай даўніны.**



Фота www.dic.academic.ru

Тое, што гісторыя не мае ўмоўнага ладу — старая дапатопная ісціна. Аднак, напэўна, наша псіхіка збудаваная такім чынам, што асабліва важныя падзеі мінулага так і хочацца пракруціць праз прызму альтэрнатыўных версій. Не стала выключэннем і так званая «пяцідзённая» грузіна-расійская вайна, якая пачалася ў жніўні 2008 года. Нягледзячы на някруглую дату, пра тагачасныя падзеі на Каўказе сёння пішуць вельмі шмат, і, натуральна прапаноўваюць магчымыя версіі таго, як выглядала б зараз Грузія, рэгіён і ўвесь свет, калі б нешта восем гадоў таму пайшло інакш.

Актыўныя баявыя дзеянні пачаліся ў ноч на 8 жніўня, калі Грузія падвергла масіраванаму артабстрэлу Цхінвалі. Днём у рэгіён былі ўведзеныя значныя расійскія сілы, якія выціснулі грузінскія войскі аж пад самы Тбілісі. 16 жніўня быў падпісаны план мірнага ўрэгулявання канфлікту, які, па сутнасці, перайшоў у дыпламатычную фазу. 26 жніўня Расія афіцыйна прызнала Паўднёвую Асецію і Абхазію ў якасці незалежных дзяржаў. 2 верасня Грузія разарвала дыпламатычныя адносіны з Расіяй. Правал у вайне спрыяў расчараванню ўладай Саакашвілі, які праз пяць гадоў аказаўся ў палітычнай эміграцыі.

Ці магчыма было перайграць гэтую гісторыю? Найбольш часта задаюцца пытаннем, што было б, калі б Саакашвілі не ініцыяваў у жніўні 2008-га аднаўленне тэрытарыяльнага адзінства Грузіі. На думку шмат каго, гэта мала б што змяніла. У лепшым выпадку, проста адцягнула б канфлікт па часе. Напрыклад, вядомы эксперт Уладзімір Іларыёнаў адзначае, што паранармальная па памерах канцэнтрацыя расійскай зброі і тэхнікі фактычна пракла шлях да будучай буйнамаштабнай ваеннай акцыі.

«Напярэдадні жнівеньскай вайны Паўднёвая Асецыя магла пахваліцца самай вялікай колькасцю танкаў на душу насельніцтва ў параўнанні з любой дзяржавай на планеце: 1758 танкаў і лёгкіх танкаў на тысячу чалавек, што вышэй, чым у такіх мілітарызаваных краінах, як Ізраіль (531) і Паўночная Карэя (177)», — піша эксперт. Вайна была, такім чынам, не імправізаванай рэакцыяй на грузінскую вайсковую атаку. Інтэрвенцыя была непазбежнай, незалежна ад таго, што зрабілі б грузіны».

Аднак і без правакацый з боку Масквы ў Тбілісі хапала ястрабаў. У 2013 годзе пасля адстаўкі Саакашвілі пры ўрадзе Грузіі пачала працаваць спецыяльная камісія, якая вывучала абставіны «вайны 8.8.8». Камісія заключыла, што маштабнага сутыкнення можна было б пазбегнуць, калі б кіраўнік Грузіі мэтанакіравана, прыкладна з 2006 года, не запусціў план падрыхтоўкі краіны да вайны, які ўключаў рост памежных правакацый.

Нават калі б спробы наступу не было восем гадоў таму, то ў 2014-м на фоне абвастрэння канфлікту ва Украіне, Саакашвілі абавязкова б даў загад атакаваць Цхінвалі. Так лічыць кіраўнік грузінскага ўрада Іраклій Гарыбашвілі. «Адзінае, што я магу сказаць з адказнасцю: будзь сёння тут Міхаіл Саакашвілі, я запэўніваю вас на 101%, што сёння ў нашай краіне быў бы жах, былі б вайна і жудасныя беспарадкі, становішча было б горш, чым сёння ва Украіне», — працытавала два гады таму словы прэм'ера адно з грузінскіх агенцтваў.

Калі б Грузія і Расія крыху скарацілі свае геапалітычныя апетыты ў Закаўказзі, хутчэй за ўсё, у Паўднёвай Асеціі захаваўся б статус-кво. Напэўна, сутычак з выкарыстаннем артылерыі і самалётаў не фіксавалася б, аднак напружанасць у краі прысутнічала, у тым ліку таму, што ўжо з 2002-га хадзілі спекуляцыі пра хуткі аншлюс краю з боку Масквы.

Цікава каментуюць сёння тую вайну ў Кіеве. 8 жніўня ўкраінскі МЗС у афіцыйнай заяве паспрабаваў прагназаваць, што было б у выпадку, калі б Захад актыўна ўмяшаўся ў супрацьстаянне на грузінскім баку. Дыпламаты мяркуюць, што ў такім выпадку Крым застаўся б украінскім. «Не атрымаўшы дастаткова жорсткай і адназначнай рэакцыі міжнароднай супольнасці на агрэсію супраць Грузіі, Расія абрала наступнай мішэнню Украіну», — заявілі ва ўкраінскім МЗС.

Аднак той жа Саакашвілі распавядаў, што амерыканцы вельмі аператыўна рэагавалі на рух расійскай танкавай калоны да грузінскай сталіцы. Былы грузінскі лідар кажа, што ЗША і Расія былі на мяжы наўпроставага ваеннага сутыкнення, і выключна непахісная пазіцыя Вашынгтона не дазволіла расійскім войскам узяць Тбілісі.

Тэма «Чаму ў 2008-м мы не ўзялі Тбілісі» дасюль не дае спакою вялікай кагорце расійскіх ура-патрыётаў. Няма дэфіцыту і ў тых, хто кажа, што разварот танкаў ад сталіцы Грузіі ёсць праява дзяржаўнай здрады. Тым больш, што, маўляў, грузіны самі чакалі расіян. Палітолаг Іслам Сайдаеў піша: «Тбілісі стаяў пустым. Усё кіраўніцтва ўцякло да турэцкай мяжы. Чачэнскі батальён «Усход» быў усяго за дзесяць кіламетраў ад цэнтра Тбілісі. Дарэчы, і народ быў не супраць, каб руская ўвайшлі. Іх ужо ўсё дастала. (...) Усіх, хто тады даў загад адступаць ад Тбілісі, трэба пасадзіць. Не было б сёння праблем з Украінай, калі б мы скончылі з Грузіяй. Таму што мы не дабілі той ачаг нянавісці, і ён перакінуўся на Украіну, дзе, дарэчы, зараз ваююць грузінскія добраахвотнікі на ўкраінскім баку».

Аднак у цэлым экспертнае асяроддзе падтрымлівае тагачаснае рашэнне кіраўніцтва РФ. «Ну, узялі б мы Тбілісі ў 2008 годзе. Што далей? Нам давялося б ствараць там новы ўрад, кіраваць краінай. Мы ўпэўненыя, што грузіны б гэта прынялі і не паўсталі? (...) І Януковіча таксама, напэўна, можна было б абараніць. Але ці варта абараняць прэзідэнта, няхай самага законнага, калі ён не здольны абараніць сябе сам? Ці патрэбны нам бездапаможны баязлівец ва ўладзе? І зноў узнікае пытанне — а што далей? Паўнавартасны ўдзел у грамадзянскай вайне. Дзякуй, не трэба», — мяркуе маскоўскі палітолаг Барыс Кагарліцкі.

Між тым, нельга прайсці міма аднаго выказвання Мядзведзева, які неяк усё ж абмовіўся, што, маўляў, нават часовая прысутнасць расіян у Тбілісі ў жніўні 2008-га стала б некралогам для Саакашвілі як палітыка. Магчыма, расійскі прэм'ер сказаў гэтую фразу з прысмакам шкадавання. Тбілісі тады выстаяў, і Саакашвілі застаўся ў палітыцы ў якасці фронтмэна супрацьстаяння Пуціну ў СНД. А ў гэтую восень на парламенцкіх выбарах у грузінскі парламент у яго партыі «Нацыянальны рух» нават ёсць шанец вярнуцца да ўлады.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Якаб Зума



Прэзідэнт Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі, лідар партыі «Афрыканскі нацыянальны кангрэс» (ANC), як піша прэса, цалкам спусціў на вецер спадчыну Нэльсана Мандэлы — героя барацьбы з апартэідам, які стаяў ля вытокаў цяперашняй мадэлі ПАР. Такая выснова зроблена пасля аналізу вынікаў мясцовых выбараў. Партыя Зумы хаця і выйшла пераможцам (54%), аднак вельмі шмат страціла параўнанні з 2012 годам (66%).

Не дапамог Зуму і яго аднапартыйцам нават прыняты ўвесну вельмі спекулятыўны і папулісцкі закон, як дазваляе канфіскацыю зямель белых фермераў. Пры ўмове захавання тэмпаў падзення інтарэсу выбаршчыкаў да ANC, у 2019-м (тады пройдуць парламенцкія выбары) у краіне можа змяніцца ўлада.

Сыход Кангрэса ў апазіцыю можна азначаць пачатак новай палітычнай эры ў гісторыі ПАР, паколькі ANC манапольна кіраваў краінай з сярэдзіны 1990-х гадоў, калі быў ліквідаваны рэжым апартэіду. Аднак самы вялікі парадокс у тым, што асноўнай альтэрнатывай ANC электарат бачыць «Дэмакратычны альянс» — партыю, якая арыентуецца на белых грамадзян і прадстаўнікоў чарнаскурага сярэдняга класу.

З улікам таго, што чорны сярэдні клас — не масавая з'ява, папулярнасць «Дэмакратычнага альянсу» сярод маладых афрыканцаў шмат каму незразумелая. Магчыма, карумпаваная адміністрацыя Зумы проста дастала людзей. Так ці інакш, у 2019 годзе мы можам стаць сведкамі неверагоднай з'явы — вяртання белых у кіраўніцтва ПАР за кошт галасоў чорных выбаршчыкаў.

### Ільхам Аліеў



Кіраўнік Азербайджана падпісаў распараджэнне аб правядзенні 26 верасня ўсенароднага галасавання для ўнясення змен у Канстытуцыю краіны. Праект новай Канстытуцыі прадугледжвае павелічэнне прэзідэнцкага тэрміну з пяці да сямі гадоў і адмову ад узроставых абмежаванняў для кіраўніка дзяржавы.

У цяперашні час кіраўніком Азербайджана можа быць абраны грамадзянін рэспублікі з вышэйшай адукацыяй не маладзейшы за 35 гадоў, які стала пражывае на тэрыторыі краіны звыш 10 гадоў. Канстытуцыйны суд, натуральна, не супраць паправак.

Улада тлумачыць неабходнасць рэформы дасягненнямі краіны ў выніку імклівага развіцця за сем гадоў. Што ж тычыцца апазіцыі, то яна лічыць, што Ільхам Аліеў вырашыў пакіраваць яшчэ дзевяць гадоў. Канстытуцыйныя змены дадуць магчымасць Аліеву ў 2025-м годзе перадаць уладу сыну Гейдару, якому да таго часу споўніцца 28 гадоў. Але ёсць і іншы сцэнар — перадача ўлады жонцы. Пару дзён таму з'явіліся ўскосныя пацвярджэнні гэтага. Старшыня праўладнай Партыі адзінага народнага фронту выступіў з ініцыятывай вылучыць Мехрыбан Аліеву на пасаду віцэ-прэзідэнта. Застаецца дадаць, што ў 2025 годзе споўніцца 56 гадоў праўлення ў Азербайджане дынастыі Аліевых.

### Юрыко Коіке



Японскі палітык, сябра партыі ліберал-дэмакратаў, былы міністр абароны і аховы наваколля пачала выконваць функцыі мэра Токіа пасля таго, як выйграла выбары. Навіна цікавая не толькі таму, што гэта першая мэр-жанчына ў гісторыі сталіцы Японіі. Менавіта Юрыко будзе адказваць за няпростую падрыхтоўку мегаполіса да Алімпійскіх гульняў 2020 года.

У 2013 годзе, калі Токіа заваяваў права правесці летнія Алімпійскія гульні 2020 года, у горадзе панавала эйфарыя. Але пазітыўны настрой хутка змяніла расчараванне ў сувязі з шэрагам карупцыйных скандалаў сярод гарадскіх чыноўнікаў, якія прыцягнулі Алімпіяду ў горад. Вынікам стала адстаўка папярэдняга мэра ў чэрвені.

Новы мэр займае вельмі правыя нацыяналістычныя пазіцыі: напрыклад, падтрымлівае перагляд падручнікаў гісторыі, якія, на яе думку, павінны пазітыўна падаваць вопыт Японіі ў часы Другой сусветнай вайны. У 2009 годзе Юрыко спрабавала заняць пасаду старшыні партыі. Падчас прэзентацыі сваёй праграмы яна абяцала ў выпадку перамогі дамагчыся ад Расіі вяртання Курыльскіх выспаў, якія з 1945-га перайшлі пад кантроль Масквы.

З іншага боку, Юрыко — адна з самых вядомых эколагаў у краіне. Яна выступае за імплементацыю Кіёцкай дамовы, актыўная ў кампаніі супраць пластыкавых торбаў і нават была ўладальніцай прэміі за найбольш экалагічную вопратку сярод сябраў ураду.

# Ці піўная краіна Беларусь?

Алег ДЗЯРНОВІЧ

**А вы ведаеце, што пад Расійскай імперыяй у Беларусі спажыванне піва было выціснута гарэлкай? А пра тое, што наша краіна мае старадаўнія броварскія традыцыі? З нагоды Міжнароднага дня піва, які штогод адзначаецца 5 жніўня, мы вырашылі пазнаёміць вас з цікавымі піўнымі фактамі.**

Піва — адзін з найстаражытнейшых напояў, выраблены чалавекам. Верагодна, піва было вынайдзена выпадкова, калі пакінутае ў гаршчку зерне намокла і шляхам ферментацыі атрымаўся слабы алкагольны напой. У нашай кліматычнай зоне, на поўначы Еўропы, для вырабу піва выкарыстоўваўся ячмень, але ў іншых краінах можа быць і іншае зерне — пшаніца, авёс, грэчка, кукуруза, рыс.

Ячмень быў найбольш пашыранай аграрнай культурай. Адпаведна, піва, разам з пітным мёдам, былі найбольш пашыранымі ў сярэднявечнай Беларусі алкагольнымі напоямі. У судовых фармулёўках XVI стагоддзя словазлучэнне «ў піве быць» азначала «знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення». У тэтым сэнсе піва выступала як сінонім спіртных напояў наогул.

Але апроч зерня для вырабу важны яшчэ адзін кампанент — хмель, які выкарыстоўваўся, каб заглушыць рэзкаваты смак соладу, а таксама для антыбактэрыяльных якасцяў.

У Вялікім Княстве Літоўскім актыўнае вырошчванне хмелю распачалося ў XVI стагоддзі, разам з бурлівым ростам колькасці бровараў у суседняй Польшчы і ў самім ВКЛ.

Прывілеі на зямельныя надзелы XVI стагоддзі нязменна згадваюць хмельнікі ў чарадзе гаспадарчых тэрыторый: «и со всими их землями пашными и бортными и з сеножатьми, и з лесы, и з дубровами, и с хмельники, и з боры, и з ловы звериными и пташыми...»

Як адзначае гісторык кулінарыі Алесь Белы, большая частка хмельнікаў месцілася на захадзе Беларусі, бліжэй да рынкаў збыту. А Статут ВКЛ 1588 года прадугледжваў досыць сур'ёзную адказнасць за пашкоджанне хмельнікаў:

«Хто бы кому хмелища подрал або порубал... таковый маеть гвалту платити дванадцать рублей грошей. А если бы дерева не посек, толко хмель подрал, то маеть тры рубли грошей заплатити».

Піва і вытворчасць піва сталі заўважнай сферай гаспадаркі Вялікага Княства Літоўскага, і практычна ўсе прывілеі гарадам на магдэбургскае права так ці інакш кранalі праблему гандлю і імпарту піва. Велікакняжацкая ўлада імкнулася кантраляваць гэтую сферу і забяспечвала прыярытэт раздробнага гандлю піва за мясцовымі купамі.

Так, напрыклад, магдэбургскі прывілей вялікага князя Аляксандра ад 1499 года прадугледжваў, што «ні адзін купец нашага места, апрача віленцаў» не мог прадаваць у Менску «нямецкае піва і іншае пітво замежнае» ў дробнай тары — толькі «цэлаю бочкаю»: «Чужыя купцы не маюць права меншымі мерамі ні прадаваць, ні купляць, толькі як вышэй напісана. Калі ж бы хто з іх асмеліўся б інакш учыніць, тады войт тую пакупку павінен забраць у клецъ на нашу карысць».



> **Піва аб'ектыўна тармазіла працэс імклівай алкагалізацыі. Але распаўсюд піва ў беларускіх губернях не садзейнічаў папаўненню імперскай казны**

Сур'ёзныя выпрабаванні для піва пачаліся ў XIX стагоддзі — у гэтага старажытнага напою з'явіўся вельмі эфектыўны канкурэнт. Развіццё аграрнай гаспадаркі і перапрацоўчай вытворчасці зрабіла высокарэнтабельным масавую вытворчасць гарэлкі. Расійскія ўлады напоўніцу ацанілі фіскальныя магчымасці гэтай новай сітуацыі.

Гарэлка была завезена ў Вялікае Княства Літоўскае ў канцы XV — пачатку XVI стагоддзя з Германіі. Таму першапачатковая назва гарэлкі была «віно падпаленае» (калька з нямецкай Gebrant Wein). Да XVII стагоддзя гарэлка была адносна дарагім і маладаступным алкагольным напоем. Але з памяншэннем выдаткаў на вытворчасць гарэлкі яе кошт памяншаўся.

На прыкладзе дынамікі цэн у кнігах актаў Магілёўскага магістрата можна бачыць паступовы працэс замены піва гарэлкай. У 1697 годзе суадносіны коштаў гарэлкі і піва складала 11:1, але ў 1710 ужо 7:1. У гэты ж час цэны на асноўныя тавары (хлеб, цукар, піва, абутак) выраслі ў два разы, а зарплата мінімум на 20%. Гарэлка стала выцясняць піва, і асабліва пітны мёд.

Але эпохай сапраўднага росквіту для гарэлкі стаў перыяд панавання Расіі. У 1811 годзе была ўведзена сістэма выкупу гандлю алкаголем у Расійскай Імперыі. Гандляр уносіў у дзяржаўны скарб фіксаваную плату, якая не залежала ад будучага прыбытку. Фактычна купец манапалізаваў гандаль алкаголем на пэўнай тэрыторыі. Найбольшы прыбытак прыносіла продаж гарэлкі, а не піва. Гэта быў перыяд імклівага распаўсюджвання корчмаў і шынкоў з выкупленым правам гандлю алкаголем.

Піва аб'ектыўна тармазіла працэс імклівай алкагалізацыі. Але таксама распаўсюджванне піва ў беларускіх губернях не садзейнічала папаўненню імперскай казны. Палітыка расійскага ўрада была накіравана на атрыманне як мага большай сумы падаткаў і збораў ад вытворчасці і продажу алкагольных напояў. 46% даходаў дзяржаўнага бюджэту Расіі ў 1859 годзе складалі «п'яныя» грошы! Піва прайгравала ў супрацьстаянні з гарэлкай.

Але, у сваю чаргу, прагрэс у аграрнай сферы і развіццё сыравіннай базы, а таксама пашырэнне ўрбанізацыі і кшталтаванне новых гарадскіх традыцый з больш інтэнсіўным рытмам жыцця, калі цанілася толькі лёгкае ап'яненне, аб'ектыўна стварылі ўмовы для новага этапу пашырэння піва ў Беларусі. Апроч таго, у канцы 1863 года ў Расіі была ліквідавана заганная адкупная сістэма і ўведзены больш цывілізаваны піцейны збор. У Беларусі пачалі імкліва ўзнікаць індустрыяльныя бровары.

Добра вядомая сёння «Аліварыя» ўзнікла якраз у 1864 годзе. Менскай мяшчанкай Фрумкінай на месцы сучаснага завода была пабудавана драўляная півакарня. Пазней уладальнікам бровара стаў граф Караль Чапскі — адзін з самых удалых гарадскіх кіраўнікоў Менска за ўсю яго гісторыю. У 1894 годзе Чапскі пабудаваў мураваную піваварню. У 1898-м бровар быў прададзены аўстрыйскім купцам братам Лекертам, пасля чаго прадпрыемства пачало звацца заводам Лекертаў.

Да гэтага ж часу адносіцца і ўзнікненне легендарнага лідскага брэнду. Бровар у Лідзе быў пабудаваны ў 1873 годзе лідскім мешчанінам Носелем Пупко. Завод належаў яму і яго нашчадкам на працягу трох пакаленняў.

Беларускаму піваварэнню давялося перажыць у другой палове XX стагоддзя няпростыя часы ўніфікацыі і радыкальнага зніжэння якасці масавага прадукту. Рэальна адзін гатунак — «Жыгулёўскае», — прадаваўся па ўсіх абшарах Савецкага Саюза, а знайсці ў крамах іншае піва было практычна немагчыма.

> Піва і вытворчасць піва сталі заўважнай сферай гаспадаркі ВКЛ, і практычна ўсе прывілеі гарадам на магдэбургскае права так ці інакш кранalі праблему гандлю і імпарту піва

Піўная галіна Беларусі якасна адраджаецца (ці ўзнікае) практычна толькі апошнія 15–20 гадоў. Усё ж паводле статыстыкі беларусы ўваходзяць у групу «сераднячкоў» па ўжыванні піва.

Паводле дадзеных статыстыкі 2015 года, абсалютным лідарам па выпітаму піву (з разліку колькасці літраў на аднаго чалавека на працягу года) выступае Чэхія — 149 літраў, за ёй ідуць Аўстрыя (108 літраў) і Нямеччына (106 літраў). Беларусь дае лічбу ў 51 літр. Гэта меней, чым ва ўсіх суседзяў Беларусі: Польшчы (99), Расіі (74), Літвы (73), Латвіі (66), Украіны (62).

Разам з тым, Беларусь застаецца адным з лідараў спажывання алкаголю ўвогуле ў свеце. Таму застаецца слабая надзея, што пашырэнне піва ў Беларусі (не проста ў літрах, а ў гатунках) прывядзе да змены структуры спажывання алкаголю, калі менавіта піва пасуне моцныя напоі. У такім разе гэта будзе азначаць адраджэнне нашых даўніх традыцый.

## A-Fest пад патранажам графа Чапскага

**Свята піва і ежы пройдзе 13 жніўня ў Лошыцкім парку.**



Партнёр фестывалю беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі «aDNaK!» і самы гістарычна арыентаваны піўны брэнд краіны «Аліварыя», выбіраючы месца для святкавання дня народзінаў легендарнага графа Чапскага, абсалютна лагічна спыніўся на Лошыцы.

З Лошыцай у знакамітага графа ў жыцці тое-сёе звязана: існуе легенда (як было насамрэч, мы не ведаем), што Ян Караль Чапскі меў раман з гаспадыняй лошыцкай сядзібы, жонкай Яўстафія Любанскага Ядвігай Кяневіч. Той самай, якая пасля самагубства стала знакамітай Белай Паннай — самым папулярным мінскім прывідам, якога можна сустрэць раз на год у красавіку і на якога палююць маладыя хлопцы і дзяўчаты, бо прывід, кажуць, можа дапамагчы ў справах кахання.

Чаму 13 жніўня? Вельмі проста — фэст пройдзе ў выходны дзень, напярэдадні дня народзінаў легендарнага графа. Што будзе на фэсце?

«Гэта будзе фэст ежы, піва, музыкі. Тут бургер будзе прадавацца побач з дранікам, а гарадскія забавы стануць побач з музычнай праграмай», — расказвае дырэктар па маркетынгу і развіцці бізнесу кампаніі «Аліварыя» Ганна Губкіна.

Сярод забаваў абяцаюцца: парад вусачоў і барадачоў (каб зразумець, чаму, паглядзіце на любую выяву Чапскага і ягоныя шыкоўныя вусы), «Мазгабойня», ледзь не самая любімая гульня сучасных мінчан. Гульні часоў Чапскага: калі вы апошні раз гулялі ў кракет? Кавярні, стылізаваныя падчас зараджэння мінскага піўзавода, якія пасля стане заводам «Аліварыя». І ў якасці музычнага сюрпрызу — сэт ад еўрапейцаў «Brainstorm».

# Першы гродзенскі алімпіец



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У Бразіліі праходзяць XXXI Алімпійскія гульні. Лічыцца, што ўпершыню беларускія спартоўцы прынялі ўдзел у Алімпіядзе 1952 года ў складзе зборнай СССР. Але гэта былі не першыя алімпійскія спартоўцы — ураджэнцы Беларусі.**

### Легендарны кавалерыст

Наш першы спартовец-алімпіец паходзіў з Гродна.

У маі 1888 года ў сям'і генерала Рускага імператарскага войска нарадзіўся Караль Альфонсавіч Румель. Ён скончыў Адэскі кадэцкі корпус, Паўлаўскае вайсковае вучылішча ў Пецярбургу і Акадэмію мастацтваў. Хлопец вельмі хацеў стаць прафесійным вайскоўцам.

Пасля вучобы ён служыў у 14-м Маларасійскім драгунскім палку. Румеля хутка заўважылі і ўключылі ў алімпійскую каманду па канкуры (пераадоленне перашкод на конях). Падчас летніх Алімпійскіх гульняў 1912 года ў Стакгольме Караль Румель лідзіраваў, аднак з-за таго, што яго конь Зяблік зачапіў перашкоду і ўпаў, спартовец заняў толькі 15-е месца. Больш таго, Румель зламаў некалькі рэбраў, аднак вырашыў закончыць скачкі ў сядле. За мужнасць шведскі кароль Густаў V узнагародзіў ураджэнца Беларусі спецыяльным залатым медалём, які быў копіяй алімпійскай узнагароды.

Праз два гады пасля Алімпіяды пачалася Першая сусветная вайна, у выніку якой чатыры імперыі (Расійская, Асманская, Аўстра-Венгерская і Германская) развaліліся. На іх руінах з'явіліся незалежныя дзяржавы, у тым ліку і Другая Рэч Паспалітая. У 1919 годзе Караль Румель паступіў на службу ў Войска Польскае і ў якасці маёра 8-га уланскага палка мужна змагаўся з бальшавікамі. Ён удзельнічаў у кровапралітнай бітве пад Камаровам, дзе польскай кавалерыі ўдалося нанесці цяжкую паразу 1-й бальшавіцкай коннай арміі пад камандаваннем Сямёна Будзённага. За гераізм Румель быў узнагароджаны Крыжам «Віртуці Мілітары».

### Дзясяткі турніраў

У 1920 годзе Каралю Румелю даверылі падрыхтоўку польскай каманды да ўдзелу ў Алімпійскіх гульнях. Менавіта ён падрыхтаваў Адама Крулікевіча, які ў 1924 годзе заняў трэцяе месца ў канкуры і заваяваў для Польшчы першы алімпійскі медаль.

У 1924 годзе Румель і сам прыняў удзел у летніх Алімпійскіх гульнях у Парыжы, дзе на кані па мянушцы Фаварыт заняў 11-е месца ў індывідуальным заліку і 6-е — у камандным.

У 1927 годзе Караль Румель разам з калегамі па Войску Польскім узяў галоўны прыз на спаборніцтвах у «Мэдзісан-сквер-гадэн» у Нью-Ёрку, а праз год, на летніх Алімпійскіх гульнях у Амстэрдаме, заваяваў бронзавы медаль у трохбор'і. Тры разы (у 1925, 1927 і 1928) Румель заваёўваў прэстыжны трафей — Кубак нацый.

У апытанцы «Спартовага агляду» ў 1927 годзе на званне лепшага спартоўца года Караль Румель заняў другое месца.



Караль Румель на адным са спаборніцтваў

У 1929-м у званні падпалкоўніка спартовец звольніўся з войска і сканцэнтраваўся на ўдзеле ў спаборніцтвах. Напярэдадні Другой сусветнай вайны гарадзенец устанавіў рэкорд Польшчы ў скачках у вышыню на конях (198 см). Тады яму быў 51 год.

У верасні 1939-га Караль Румель аказаўся ў нямецкім палоне. Пасля чаго быў у канцлагерах Дахаў і Маўтхаўзэн. Яму пашчасціла выжыць. Пасля вызвалення з нямецкай няволі ён вярнуўся ў Польшчу, працаваў трэнерам коннай язды ў Сопаце, здымаўся ў мастацкіх фільмах (між іншым, у стужках знакамітага Анджэя Вайды). Пайшоў з жыцця Караль Румель у 1967 годзе.

### Паплечнік Каліноўскага

Насамрэч айчынная алімпійская гісторыя больш доўгая, бо беларус удзельнічаў у арганізацыі першых сучасных Алімпійскіх гульняў у Грэцыі яшчэ ў 1896 годзе. Размова пра ўраджэнца Ашмяншчыны Жыгімонта Мінейку. Ён прымаў удзел у Паўстанні Кастуся Каліноўскага. Камандаваў атрадам касінераў і ўдзельнічаў у некалькіх баях з царскімі войскамі. Пазней Мінейка стаў начальнікам Ашмянскага павету. Урэшце паўстанец трапіў у рукі царскіх улад і быў прысуджаны да смяротнага пакарання.

Аднак героя выратавала расійская карупцыя. Хабар дапамог замяніць расстрэльны прысуд на 12 гадоў катаргі ў Сібіры. У 1865 годзе беларускі шляхціц збег у Францыю, дзе скончыў вайсковую школу. Пасля ён пераехаў у Грэцыю, дзе працаваў вайсковым інжынерам, а пазней узначаліў тапаграфічны аддзел Генштаба грэчаскай арміі. Менавіта пад яго кіраўніцтвам былі рэканструяваны і падрыхтаваны да Алімпійскіх гульняў 1896 года антычныя алімпійскія стадыёны.

У 1922 годзе інжынер наведаў Другую Рэч Паспалітую і быў узнагароджаны польскімі ўладамі Крыжам «Віртуці Мілітары». Перад смерцю сваю багатую нумізматычную калекцыю Мінейка перадаў у Віленскі ўніверсітэт. Памёр адзін з бацькоў адраджэння алімпійскага руху ў 1925 годзе.



Караль Румель, пачатак 1930-х

# Наш каваль

Алесь СТАНКЕВІЧ

**У зборную СССР ён трапіў у «пенсійныя» для спартоўцаў 30 гадоў. Але гэта не перашкодзіла яму неаднаразова здабываць залатыя і срэбныя алімпійскія медалі. Гаворка пра легенду беларускага і савецкага спорту кідальніка молату Рамуальда Кліма.**



Калі не лічыць алімпійцаў Другой Рэчы Паспалітай, то ўпершыню беларусы выступілі на Алімпіядзе–1952 у Хельсінкі ў складзе зборнай СССР. А першым беларускім медалістам стаў праз чатыры гады кідальнік молату Міхаіл Крываносаў, які заваяваў «срэбра».

Першы ж залаты медаль беларусамі здабыты ў 1964 годзе ў Токіа, яго ўладальнікам стаў Рамуальд Клім, таксама кідальнік молату.

Наступная Алімпіяда 1968 года ў Мехіка зноў прынесла Кліму медаль, праўда, ужо срэбны.

Рамуальд Іосіфавіч Клім быў неардынарным чалавекам. Ён нарадзіўся на Навагрудчыне. Дзяцінства яго праходзіла «за польскім часам». Вайну Рамуальд пражыў у акупацыі.

Спортам Рамуальд Клім пачаў захапляцца яшчэ ў дзяцінстве. Дужы хлопчык лёгка здабываў перамогу на раённых спаборніцтвах. А пасля школы паступіў у інстытут фізкультуры. Дарэчы, спачатку Рамуальд займаўся боксам. І тут ён таксама меў пэўны поспех. Але пасля таго, як яго трэнер сышоў з інстытута, Клім задумаўся пра змену спартыўнага кірунку.

На рашэнне стаць кідальнікам молата ў нейкай ступені паўплываў той самы першы беларускі медаліст Міхаіл Крываносаў, калі Клім убачыў, як той прыгожа працуе з молатам.

У зборную СССР Рамуальд Клім трапіў толькі ў 30 гадоў. Такі ўзрост для многіх спартсменаў лічыцца «пенсійным», але менавіта пасля трыццаці Клім станавіўся пераможцам мноства кубкаў і спаборніцтваў.

Спартыўную кар'еру Рамуальд Клім завяршыў ва ўзросце 40 гадоў у 1973 годзе. Дагэтуль яго тэхніка кідання молата лічыцца эталоннай.

Жыццёвы шлях яго таксама зусім не просты: быў і выкладчыкам, і трэнерам, і суддзёй вышэйшай кваліфікацыі, і афіцэрам СА, і прафесарам універсітэту. Але заўжды заставаўся даступным, шчырым, жыццярадасным і жыццядзейным чалавекам. Заўсёды быў гатовы дапамагчы, даць карысную параду. Нават будучы суддзёй, мог падказаць спартоўцу, дзе той зрабіў памылку. А гэта не надта вітаецца. Але ж ён увесь час імкнуўся заставацца настаўнікам.

Рамуальду Кліму былі рады ў любой кампаніі, а яго байкі ды анекдоты памятаюць многія.

# Аляксандр Надсан — апошні апякун беларушчыны

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ

**8 жніўня айцу Надсану споўнілася б 90 гадоў. Ужо больш за год як асірацела дыяспара, а разам з ёй і ўся Беларусь. Але калі ў беларусаў Беларусі застаецца сама краіна, то ў беларусаў дыяспары са сконам айца знікла моцная повязь з радзімай.**



**Мову беларусы згубілі ў выніку палітыкі Расіі**

Без такога арыенціра дыяспара сутыкнулася са складаным выпрабаваннем на далейшыя кансалідацыю і выжыванне.

Чалавек шматмоўны, чалавек сапраўды еўрапейскі, беларус, які праз сваю эрудаванасць і культуру апярэдзіў усю Беларусь ды і Еўропу ў справе адкрытасці, беззабабоннасці, у манеры і маштабе мыслення ў фармаце супольнай Еўропы, супольнага свету. Чалавек з кагорты такіх, як Скарына, які натхняў і будзіў айца і стаўся светачам, арыенцірам для беларусаў свету. І няма сумневу, што сёння ў постбрэксітным Каралеўстве праеўрапейскі айцец Аляксандр быў бы ў скрусе праз адмову вялікай часткі брытанцаў ад найбольшай каштоўнасці — адкрытасці, бязмежнасці, безбар'ернасці ўнутры Еўропы.

Пра спадара Аляксандра напісана шмат, пасля смерці пачалі пісаць яшчэ больш тыя, хто ведаў яго добра, хто сябраваў з ім. Я ж ведаў яго ўрыўкамі і толькі ў апошнія пяць гадоў жыцця апекуна беларушчыны, як госць Скарынаўкі, як госць спадара Аляксандра.

З першай стрэчы шармаваў ён мяне сваёй жвавасцю, хапатлівасцю, адкрытасцю і гумарам. Прыжмураныя гарэзлівыя вочы і дасканалае веданне Беларусі прыручалі кожнага наведвальніка — і ў Лондане дзякуючы яму кожны пачуваўся нібы дома. Думаю, не я адзін буду памятаць усё жыццё яго экскурсіі па Скарынаўцы, якія ён ладзіў для ўсіх гасцей.

У першы прыезд у Лондан мне пашанцавала, і айцец зладзіў мне індывідуальную экскурсію. Паралельна па мове ён адразу выявіў маё віцебскае паходжанне, распавёў гісторыйкі, звязаныя з Віцебскам, і падзяліўся ўражаннямі ад ранейшага Віцебску, не цяперашняга. А яшчэ пакпіў, што калісьці віцябляне забілі Язафата Кунцэвіча.

Надалей падчас працы ў бібліятэцы айцец дапамагаў слушнымі парадамі як у пытанні тарашкевіцы, так у пытанні французска-беларускага перакладу. Айцец Аляксандр цудоўна валодаў і гэтай мовай.

Як жвава і аптымістычна ён успрыняў наш праект па стварэнні беларуска-французскага слоўніка! Бо ў кнігі і слоўнікі айцец верыў аддана, слоўнікі лічыў за лепшую зброю супраць невуцтва і імперскасці. І зусім не здзівіўся таму, што ў Францыі не знайшлося падтрымкі гэтаму праекту, моўчкі і амаль натуральна за яго ўзялася беларуская дыяспара Вялікабрытаніі. Хоць і вельмі любіў айцец Аляксандр французскую мову (доказам таму шматлікія кнігі па-французску ў яго ўласнай бібліятэцы), да свецкай жа Францыі ставіўся з падазрэннем, да Францыі, у якой, як цудоўна ведаў айцец, беларусам не ўдалося замацавацца — яны асімілявалі, зніклі, а парэшткі былой беларускай прысутнасці ў Парыжы на чале з Л. Гарошкам ён сам перавёз у Скарынаўку.

З айцом Аляксандрам і вернік, і бязвернік-беларус пачуваліся ўтульна. Як хрысціянін-гуманіст айцец не ствараў межаў і забабонаў па лініі веры, толькі адна лінія заўсёды дамінавала і вызначала ўсё — Беларусь.

Але Беларусь не бутафорна-абстрактная, а вельмі канкрэтная, прынцыповая. Айцец быў простым у жыцці, але вельмі складаным, патрабавальным у сваёй беларускасці. Беларусь была для яго толькі беларускамоўнай.

Насуперак сумнай моўнай статыстыцы, рэчаіснасці Беларусі айцец даводзіў простую праўду: факт такі, што руская мова дамінуе цяпер у краіне, але нельга забываць другі факт — так сталася ў выніку гвалтоўнай палітыкі. Каб захаваць крытычнасць розуму, лепей наогул памяняць месцамі гэтыя факты. Факт адзін: мову згубілі беларусы ў выніку гвалтоўнай палітыкі Расіі, Саветаў, а цяпер у выніку патурання сучасных уладаў — кропка.

І хоць быў айцец Надсан не лінгвістам, а матэматыкам па адукацыі і святаром па пакліканні, тым не менш яшчэ пры жыцці ён стаўся ўзорам асучасненай тарашкевіцы. Бо ён не прымаў знявечанай і русіфікаванай беларускай мовы Беларусі, пісаў, перакладаў на тарашкевіцу, адзіную дакладную версію мовы, на яго думку.

**З айцом Аляксандрам і вернік, і бязвернік пачуваліся ўтульна. Айцец не ствараў межаў і забабонаў па лініі веры, толькі адна лінія заўсёды вызначала ўсё — Беларусь**

Яго тэксты і пераклады цікавыя не толькі вернікам, але і навукоўцам, лінгвістам, напрыклад. Ён усяляк мінімізаваў разнабежыцу, зачастую сапраўды ўласцівую сімпатызантам і карыстальнікам тарашкевіцы, удакладняў недапрацаваныя ці праігнараваныя моманты ў класічнай граматыцы. Усяляк дапаўняў лакуны класічнага правапісу (напрыклад, у напісанні французскіх ці англійскіх імёнаў уласных і інш.).

Аляксандр Надсан не абыходзіў фактаў, не хлусіў сабе, а проста размаўляў ды жыў з беларускай мовай. З вельмі прыгожай, між іншым, мовай, што захавала чысціню і пэўны рэтрафлёр, уласцівы тым, хто ведаў і вывучаў мову, якую не паспелі сапсаваць русіфікатарскія рэформы ды загады. Можа дзякуючы гэтаму ён і быў такі прынцыповы, патрабавальны і зацяты ў мове, бо на вачах, увушшу ў яго адбывалася трагедыя — ён са скрухаю канстатаваў, чуў выраджэнне, русіфікацыю мовы.

Беларусы, якія прыязджалі да яго ў Лондан, як заўважаў ён сам, размаўлялі хоць па-беларуску, але адначасова не — фанетычна зусім не па-беларуску. І часта казаў у размове: «Яны там у Менску больш не ведаюць мовы».

Цікава, што даведаўшыся ў мяне аб тым, што я працую ў ЕГУ, айцец Аляксандр суняўся і сказаў: «Калі ў ЕГУ выкладаюць беларускамоўныя хлопцы, як вы, тады я не маю жаднай крытыкі ў бок гэтага ўніверсітэту».

Святарскі самотны лад жыцця разам з рамантызмам і ідэалізмам айца сталіся, на маю думку, цудоўнай зброяй супраць рацыяналізму і абывательства, якія змірылі бальшыню беларусаў са стратамі сябе, мовы, культуры, повязі з мінулым. Зброя, якая дапамагла волату давесці лінію да завяршэння і не здрадзіць уласным ідэалам.

Выразна прыгадваю, што ў дзень, калі памёр апошні апякун беларушчыны, у закутку Фінчлі ў Лондане так урачыста і кідка дацвітала магнолія, пакідаючы на асфальце вялікія ружаватыя расцярушаныя шматкі. І з таго часу вобраз айца Аляксандра ды і беларускага Лондану назаўжды зітаваныя для мяне з такой экзатычнай, але ўжо сталай беларускай магноліяй.




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 781

Падпісана да друку 12.08.2016. 8.00.
Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.